*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) | № 8 (272) | 21 лютага 1996 г. | Кошт — 1000 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **У ГУТАРЦЫ З КАРЭСПАНДЭНТАМ «ЗВЯЗДЫ» НОВЫ МІНІСТР КУЛЬТУРЫ АЛЯКСАНДР САСНОЎСКІ, У ПРЫВАТНАСЦІ, СКАЗАЎ:** «Мы чамусьці забываем, што жывём у канкрэтным грамадстве, з канкрэтнымі людзьмі, у канкрэтнай сітуацыі. У нашай дзяржаве існуе рэальнае двухмоўе. І з гэтым мы павінны лічыцца. Я вам прывяду такі прыклад. У адным з выданняў, калі я не памыляюся, у БДГ, прайшло такое паведамленне: фракцыя камуністаў ВС запісалася на курсы беларускай мовы. Я лічу, што дзяржава павінна ствараць умовы, а чалавек павінен сам вырашаць. Умовы ў нашай дзяржаве для нармальнага функцыяніравання дзвюх моў створаны. Я наогул заўсёды гаварыў і буду гаварыць: кожнае беларускае дзіця павінна ведаць тры мовы: дзве дзяржаўныя і англійскую ці нямецкую. І не трэба абвастраць штучна праблему, маўляў, скарачаецца колькасць беларускамоўных класаў...» Няўжо колькасць беларускамоўных класаў расце? І большасць расійскамоўных школ і класаў — гэта роўныя ўмовы для моў?

○ ***БЕЛАРУСКАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ НА ЧАЛЕ СА СТАРШЫНЁЙ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСІ СЯМЁНАМ ШАРЭЦКІМ ПРЫНЯЛА ЎДЗЕЛ** у традыцыйным Міжнародным эканамічным форуме ў Давосе (Швейцарыя), які адзначыў 25-годдзе свайго заснавання. Гэтая паездка беларускай дэлегацыі павінна паспрыяць далейшаму супрацоўніцтву Беларусі з краінамі Захаду. У Давосе была станоўча ўспрынята інфармацыя аб намеры беларускіх улад прадстаўляць права прыватнай уласнасці на зямлю для інвестараў.*

○ **ПАВОДЛЕ ДАДЗЕНЫХ МІЖДЗЯРЖМАЁМАСЦІ** толькі за мінулы месяц каля 200 тысяч нашых суайчыннікаў звярнуліся ў тэрытарыяльныя камісіі з заявамі аб налічэнні ім імянных прыватызацыйных чэкаў «Маёмасць».

○ ***ДЗЯРЖАЎНАМУ ТЭАТРУ МУЗЫЧНАЙ КАМЕДЫІ БЕЛАРУСІ СПОЎНІЛАСЯ 25 ГАДОЎ.** Віншуем!*

○ **У ДРУКУ З'ЯВІЎСЯ УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ,** у якім, у прыватнасці, гаворыцца: «Правесці чарговы перапіс насельніцтва Рэспублікі Беларусь па стану на 16 лютага 1999 года шляхам апытання насельніцтва ў перыяд з 16 па 23 лютага 1999 года спецыяльна падрыхтаваным персаналам, які праводзіць падлік (лічыльнікамі)». Што ж, трэба ведаць, колькі нас перад пачаткам 21-га стагоддзя.

○ ***ПА ВЫНІКАХ ШЭРАГУ САЦЫЯЛАГІЧНЫХ АПЫТАННЯЎ НАСЕЛЬНІЦТВА БЕЛАРУСІ,** якія праводзіліся на працягу апошніх гадоў Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, пераважная большасць (больш чым 70 працэнтаў) грамадзян нашай краіны выступаюць за прыватную ўласнасць на зямлю.*



***ВАЛЕРЫЙ ШЧУКІН: «ПОЛУЧИЛОСЬ НАСИЛИЕ БОЛЬШИНСТВА НАД МЕНЬШИНСТВОМ».*** *Стар. 2.*

***ДА 2000-ГОДДЗЯ ХРЫСЦІЯНСТВА. НЕ ТОЛЬКІ ПЛАЧ НА РЭКАХ ВАВІЛОНСКІХ.*** *Стар. 5.*

# ЗАЯВА
## з нагоды чарговай русіфікатарскай акцыі Міністэрства адукацыі

Нядаўна Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь разаслала па школах нашай краіны чарговы Зборнік нарматыўных дакументаў (№ 12 за 1995 г.). У ім змешчаны «Правілы пераводу, арганізацыі экзаменаў і выпуску вучняў агульнаадукацыйных школ», зацверджаныя загадам міністра адукацыі №439 ад 15 лістапада 1995 г.

У артыкуле 27 гэтых Правілаў, дзе даецца пералік абавязковых выпускных экзаменаў, няма пісьмовага экзамена па беларускай мове, тым часам як пісьмовы экзамен па рускай мове ўводзіцца ў якасці абавязковага. Мэта гэтага кроку зразумелая: зрабіць неактуальным вывучэнне беларускай мовы ў Беларусі. Такое новаўвядзенне з'яўляецца прамым парушэннем Канстытуцыі, законаў аб мовах і адукацыі. Нават калі зыходзіць з дэкларованай уладамі «роўнасці» беларускай і рускай моваў, то абавязковым павінны быць і экзамен па беларускай мове.

Новыя «Правілы» міністра В.Стражава яскрава пацвердзілі рэпутацыю Міністэрства адукацыі як «Міністэрства русіфікацыі».

Няма сэнсу патрабаваць адстаўкі міністра. Такія людзі якраз і патрэбныя сённяшняй уладзе. Патрэбныя, каб, прыкрываючыся іх хлуслівымі словамі пра клопат аб беларускай мове, з іх жа дапамогай душыць гэтую мову, нішчыць яе так, як нішчылі далёка не ўсе акупанты.

Нягледзячы на нечуваны разгул русіфікатараў, мы выказваем глыбокае перакананне, што наша святая, шматпакутная мова зойме годнае месца ў незалежнай Беларусі, а імёны яе далакопаў застануцца ў гісторыі, як засталося ганебнае імя Юды.

**Ніл ГІЛЕВІЧ, народны паэт Беларусі,**
**Рыгор БАРАДУЛІН, народны паэт Беларусі,**
**Мікола ЕРМАЛОВІЧ, гісторык, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі,**
**Уладзімір КОНАН, доктар філасофскіх навук,**
**Зьміцер САНЬКО, кандыдат біялагічных навук,**
**Уладзімір АРЛОЎ, лаўрэат літаратурнай прэміі імя У.Караткевіча.**

5 лютага 1996 года.

# У Лідзе працуе ТБШ

У Лідзе пачало працаваць Таварыства беларускай школы. Нядаўна на пашыраным пасяджэнні аб'яднанай Рады ТБШ абмеркаваны актуальныя задачы самадзейнай арганізацыі. Меркаваннямі на гэту тэму абмяняліся Міхась Мельнік, Аляксандр Сокал, Станіслаў Суднік, Леанід Анацка і іншыя актывісты нацыянальнага адраджэння.

З пачуццём занепакоенасці адзначалі яны, што ў горадзе і раёне аслаблі прапаганда роднага слова, пашырэнне яго ў паўсядзённым ўжытку. На думку членаў Рады, працу варта засяродзіць у дзіцячых садках і школах, з ліку свядомай часткі бацькоўскай грамадскасці неабходна стварыць своеасаблівыя групы падтрымкі ТБШ, а затым на іх аснове і суполкі Таварыства. Важнае месца адводзіцца ўзаемадзеянню Таварыства беларускай школы з аддзеламі адукацыі гарадскога і раённага выканкамаў, іншымі ўладнымі структурамі і, вядома ж, з Таварыствам беларускай мовы імя Ф.Скарыны.

Рада вырашыла арганізацыйныя пытанні. Старшынём яе абраны дырэктар СШ № 15 г.Ліды Аляксандр Сокал, дэпутат Гродзенскага абласнога Савета дэпутатаў.

Застаецца заўважыць, што гурткі Таварыства беларускай школы былі шырока распаўсюджаны на Лідчыне, калі Заходняя Беларусь уваходзіла ў састаў польскай дзяржавы. І вось для выратавання роднай мовы прыходзіцца зноў ствараць ТБШ.

**А.ЖАЛКОЎСКІ, намеснік старшыні Рады Лідскай арганізацыі ТБШ.**

*Ніл ГІЛЕВІЧ*

# Дакуль жа?

Няшчасныя людзі няшчаснай краіны!
Ці душы ў нас сталі пачварна-крывымі,
Ці сэрцы зачахлі, ці кроў звадзянела,
Што столькі ўжо часу бязмоўна-знямела
Мы церпім і церпім, нібыта не бачым,
Як з тэлеэкрана, са смакам свінячым,
Паганіцца, плюндрыцца, бэсціцца тое,
Што ёсць наша права, адвеку святое?
Прыстойнасць забыта. Сумленне сканала.
Любою парою, з любога канала —
Дзярэцца народзец адзін і той самы:
Крыўлякі,
Паскуднікі,
Цынікі,
Хамы...
Націсну на кнопку — а раптам, а раптам:
Спаткаюся зараз у полі з аратым,
Ці ў цэху з рабочым, ці з доктарам мудрым,
А раптам — з любоўю, а раптам — не з брудам!
А раптам засвеціцца скрынка прыгожа:
Ці нечым з Купалы, ці з Пушкіна, можа,
Ці думай Шаўчэнкі, ці песняй Забэйды, —
І чуўся ж бы лепей, і дыхаў лягчэй бы!
Ды дзе там! Які там Купала з народам!
Дыханне спірае атрутным смуродам.
З брыды і гнюсоты нам «твораць» праграмы
Крыўлякі,
Паскуднікі,
Цынікі,
Хамы...
Адкуль гэта гадства? Каму яно трэба?
Чаму не прыменіць дзяржава дэкрэта?
А хочам, а хочам — і ўсюды вяшчаем,
Што хочам, што мэтай жыццёваю маем —
Такое грамадства наладзіць культурна,
Дзе кожнаму будзе і добра, і ўтульна.
Дык кінься фальшывыя лозунгі вобзем!
Нічога для шчасця мы ў Бога не возьмем!
Нічога! — пакуль на развалінах веры,
У кожнай хаціне, у кожнай кватэры,
Дратуюць і топчуць наш гонар нагамі
Крыўлякі,
Паскуднікі,
Цынікі,
Хамы...

1996.



Беларускі хор у в.Стары-Свержань Стаўпецкага павета. (Матэрыял чытайце на с.4.)

Жыццё Таварыства

# Ідзіце да гары!

Нядаўна ў нашым Цэнтры культуры адбылася вечарына, прысвечаная адной з самых знакамітых беларусак, нашай зямлячцы пісьменніцы Леаніле Чарняўскай. Вечарына падрыхтавана руплівіцай беларускай мовы Ганнай Парфенаўнай Корсак, якая працуе на радзіме пісьменніцы ў в.Таргуны, а таксама раённай суполкай ТБМ і раённым Домам культуры.

На вечарыну прыехалі паэты і вучоныя з Менска. Яны прывезлі з сабою выставу «Мая любоў — мая Беларусь», прысвечаную знакамітым жанчынам-беларускам, пачынаючы з Ефрасінні Полацкай, княгіні Радзівіл, К.Буйло, Л.Геніюш і інш. Вучні са школы мастацтва разгарнулі выставу сваіх твораў.

Вечарыну, па праўдзе кажучы, спачатку збіраліся ладзіць у в.Таргуны, на радзіме Л.Чарняўскай. Дарэчы, дзякуючы Ганне Парфенаўне Корсак у іх школе гэта не першая вечарына. Яны ўжо прымалі ў сябе і пляменніка Л.Чарняўскай акадэміка Р.Гарэцкага, і народных пісьменнікаў Янку Брыля і Ніла Гілевіча, і паэта-земляка Івана Стадольніка. І не толькі школьнікі, але і ўсе таргунаўцы ведаюць і любяць творы гэтых пісьменнікаў і паэтаў.

На гэты раз рашылі вечарыну правесці ў раённым Цэнтры культуры, каб маглі на ёй прысутнічаць і вучні іншых школ раёна.

Трапіць на вечарыну было складана — шчасце выпала лепшым. Але ўсё адно давялося збіраць крэслы з усіх пакояў Цэнтра культуры.

Прыгожа расказвалі біяграфію вучні Таргунаўскай школы. Малодшыя школьнікі паказвалі інсцэніроўкі па творах пісьменніцы. Гучалі песні і танцы ў выкананні школьнікаў. Выступалі са сваімі творамі і мясцовыя паэткі-настаўніцы Ф.А.Юнцэвіч і М.Б.Дзюбак. А госці з Менска дапоўнілі выступленні школьнікаў. Аб ролі сям'і Гарэцкіх у развіцці беларускай літаратуры расказала дырэктар музея беларускай літаратуры Т.С.Голуб. Дырэктар аб'яднання дзяржаўных тэатраў Л.Г.Хашкевіч расказаў аб перспектыве адкрыцця музея Л.Чарняўскай у Таргунах. Ст. навуковы супрацоўнік Інстытута беларускай літаратуры Т.Н.Дастаева, якая шмат працавала над летапісам сям'і Гарэцкіх, дапоўніла выступленне сваіх калегаў.

Цёпла былі спатканы паэты Алесь Пісьмянкоў, Леанід Дранько-Майсюк, Уладзімір Глушакоў, якія прачыталі свае вершы. Ім доўга пасля давялося адказваць на пытанні школьнікаў. А пасля выступіў і народны калектыў раённага Дома культуры «Раніца».

Вечарына прайшла, як кажуць, на славу. Але мне хочацца сказаць не толькі аб ёй.

У сваіх выступленнях сталічныя паэты скардзіліся на цяжкасці з друкаваннем сваіх твораў. І надрукавацца цяжка, купляць іх ніхто не хоча, і не чытаюць. Раней, маўляў, выдаваліся творы і тыражом 60 тысяч. А цяпер і 2 тысячы не распрадаць...

Сапраўды гэта так. Раней, калі паэт быў у праўленні Саюза ці ў Вярхоўным Савеце, ці ў ЦК, то і сто тысяч можна было выдаць. І на другі год паўтарыць. І вядомым станавіўся — яго творы сталі (гадамі!) побач з творамі «верных ленінцаў».

Але ж і цяпер спрабуйце купіць творы добрых беларускіх пісьменнікаў. У нашай раённай краме цяпер не больш 10 назваў беларускіх кніг. І гэта не таму, што не купляюць. «Макулатуры» тыпу баевікоў — поўныя прылаўкі. Гэта таму, што камусьці трэба, каб беларускія кнігі не дайшлі да нас, беларускай глыбінкі.

І атрымліваецца, што мы, беларусы, не ведаем сваіх паэтаў і пісьменнікаў. Класікаў і народных хоць у школе крыху вывучаюць. Але і іх творы цяпер купіць у правінцыі цяжка. І прачытаць нельга. «Полымя», «Маладосць» і ЛіМ у раёне выпісваюць не больш як па сотні паасобнікаў. Ды і то — не ўсюды. Ды не па кішэні цяпер выпісваць па дзесятку выданняў. Таму і не ведаем мы цяпер не толькі твораў маладых, але і «кандыдатаў у народныя».

Але гэта не азначае, што цікавасць да паэтаў і пісьменнікаў у глыбінцы аслабела. Вось прыклад: прывёз на вечарыну Леанід Дранько-Майсюк 28 экземпляраў сваёй новай кніжкі «Стомленасць Парыжам». Баяўся, казаў, што іх не раскупяць. Хто ведаў яго да гэтага часу ў раёне? Можа пару дзесяткаў чалавек. А тут кніжку яго расхапалі імгненна. І калі б прывёз у тры разы больш, таксама б раскупілі. І купіла моладзь. І стаў Леанід Дранько-Майсюк самым вядомым (з маладых, зразумела, паэтаў) ва ўсім раёне.

Выходзіць, што неабыякавая наша моладзь да сваіх паэтаў і пісьменнікаў. Аб гэтым, пэўна ж, ведаюць і тыя паэты, што выступаюць у студэнцкіх аўдыторыях. Толькі рэдка яны там выступаюць. Яны больш часта ладзяць прэзентацыі сваіх кніг у Доме літаратара. Але ж там, мяркуючы па рэпартажах у прэсе ці тэлебачанні, зала бывае не заўсёды поўнай.

І падумалася мне: а можа лепей праводзіць прэзентацыі сваіх кніг (ды і не толькі сваіх, але і кніг сяброў-паэтаў ці пісьменнікаў) у глыбінцы. І не трэба наймаць цэлы аўтобус. Можна ж сабраць чалавек 4—5 і на звыклай машыне махнуць у тыя ж Докшыцы ці Давід-Гарадок, прыхапіўшы сотню экземпляраў новай кнігі. А калі яшчэ напярэдадні дамовіцца з мясцовай суполкай ТБМ, поспех можна гарантаваць. Трэба дзейнічаць па ўсходняй прымаўцы: калі гара не ідзе да Магамеда, то Магамед ідзе да гары. Зразумела, што і мясцовыя суполкі ТБМ павінны тут дапамагаць.

І тады і паэты наблізяцца да народа, і народ будзе і чытаць, і ведаць іх. І стануць яны сапраўды народнымі значна раней, чым гэтае званне надасць ім Прэзідэнт.

**І.ФУРСЕВІЧ.**
г.Докшыцы.

З нагоды

# Яраслаў Пархута: беларусам трэба ачнуцца

Нядаўна ў менскім Доме літаратара аўтарытэтнае журы абвясціла пра вынікі конкурсу 1995 года на лепшае асвятленне тэмы аховы прыроды ў кнігах, часопісах і газетах, а прадстаўнікі Беларускай экалагічнай партыі і Менскага гарадскога экалагічнага камітэта ўручылі дыпломы і прэміі лаўрэатам і дыпламантам сярод трох катэгорыяў удзельнікаў — вучоных, пісьменнікаў і журналістаў.

Сярод пісьменнікаў лаўрэатам тут стаў Яраслаў Пархута, які ўжо да таго заваяваў званне лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь і лаўрэата прэміі Саюза журналістаў.

Прэмія ў некалькі соцень тысяч «зайцоў», канешне, была чыста сімвалічная. Але важна было іншае — прызнанне заслуг Яраслава Пархуты ў справе выхавання ў моладзі любові да прыроды і роднага краю праз серыял з краязнаўчых кніжак.

Я задаў лаўрэату некалькі пытанняў.

**— Шаноўны Яраслаў Сільвестравіч! У Вашай кнізе «Жальба жытняга коласа» сустракаюцца надзвычай паэтычныя назвы вёсак і ўрочышчаў. Прабачце, але гэта назвы непрыдуманыя?**

— Не. Я іх напаткаў у Смалявіцкім раёне Менскай вобласці падчас сваіх пешых вандровак па тамтэйшай, вельмі прыгожай зямлі: пагоркі, азярыны, пералескі, паляны, само сабой лугі. Вось і назвы паселішчаў там адпаведныя — паэтычныя: «Лужкі», «Бярозавая гара», «Лазовы куст»...

**— Вы, калі збіралі матэрыял для сваіх кніжак, шмат пахадзілі па Беларусі. Ці ўсюды яна прыгожая?**

— Зямля наша прыгожая, але ж шмат дзе вельмі хворая. І трэба шмат намаганняў, сродкаў, высілак людскіх і дзяржаўных, каб яе вярнуць да стану, у якім нам пакінулі яе нашы продкі. Бяздумна і бяздушна гаспадарыць на ёй рука сучаснага чалавека. Лясы якія ў нас? У страшэнным стане! Вадаёмы? Жах! Чарнобыль нам яшчэ бяды падсыпаў. І людзі цяпер у нейкім здранцвенні, у нейкім самнамбулічным стане нават у адносінах да сваёй зямлі і паветра... Гэта трагедыя беларускага народа, трагедыя сялянства. Экалагічны Чарнобыль спараджае Чарнобыль духоўны і — наадварот... Ачнуцца нам усім трэба, грамадою, на дзяржаўным узроўні ратаваць сваю радзіму.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

Дзеючыя асобы

# Валерый Шчукін: «Получилось насилие большинства над меньшинством»

***Беларуская мова траціць свае пазіцыі ў сістэме адукацыі. Не маючы магчымасцей спыніць гэты працэс, беларусы звяртаюцца да ўладаў, але падтрымку знаходзяць рэдка. Таму абсалютна нечаканымі для многіх сталі захады ў абарону беларускіх класаў, зробленыя адным з нядаўна абраных дэпутатаў Вярхоўнага Савета — Валерыем Шчукіным. Ці стануць ён і прадстаўленая ім палітычная арганізацыя абаронцамі беларушчыны?***

***Каб атрымаць адказ на гэтае пытанне, з дэпутатам сустрэўся карэспандэнт «Нашага слова» Уладзімір Панада, суразмоўца якога пажадаў, каб ягоныя адказы не перакладаліся на беларускую мову.***

**— Пачаць трэба з таго, што большасць з нашых чытачоў нічога пра Вас не ведае...**

— Родился я в городе Владивостоке. Отец у меня русский, мать белоруска. С 1951 года нахожусь в Белоруссии. До 5 класса учился в белорусской школе, а потом — в русской, в Минске. Мать хотела, чтобы я закончил русскую школу. Русским я записан и в паспорте.

Служил в военно-морском флоте, с 1987 года — офицер запаса и до избрания в Верховный Совет я работал машинистом крана-трубоукладчика. После увольнения в запас активно занимаюсь политической деятельностью, являюсь членом Центрального Комитета Партии коммунистов.

**— Увагу многіх прыцягнуў Ваш выступ у Вярхоўным Савеце супраць закрыцця беларускамоўных класаў і Ваш жа дэпутацкі запыт да міністра адукацыі Стражава. Гэта выказ Вашых асабістых поглядаў, патрабаванняў Вашых выбаршчыкаў альбо пазіцыі фракцыі камуністаў у Вярхоўным Савеце?**

— Будучи членом партии, все свои действия я согласую с товарищами, ведь партия — это единый организм. Что касается проблемы белорусскоязычных классов, то почему-то многие утверждают, что коммунисты против белорусского языка. Этого никогда не было — ведь мы всегда выступали за равноправие обоих языков — русского и белорусского.

**— Гаворачы «мы всегда...», Вы маеце на ўвазе адносна маладую Партыю камуністаў ці яе папярэдніцу КПСС?**

— Я вернулся в Белоруссию с Дальнего Востока в 1987 году. С этого времени я активно работаю в партии и всегда заявлял, что человек волен говорить и учиться на том языке, на каком он хочет.

**— А як да праблемы існавання ў краіне беларускай і расійскай моваў ставіцца ваша партыя?**

— Когда Верховный Совет предыдущего созыва и соответствующие министерства начали усиленно закрывать русские школы и открывать белорусские, мы возмущались и протестовали, выражая волю несогласных с этим людей — организовывали пикеты и другие акции. Мы считали, что перевод системы образования на белорусский язык должен осуществляться медленно и методом убеждения, а не принуждения. И прошлогодний референдум показал нашу правоту.

Но потом, опираясь на его решения и спекулируя его результатами, начали разгонять белорусские классы. Но ведь это не было вызвано недостатком классов русскоязычных! К тому же согласно Конституции государственным является белорусский. И получилось так, что 1 сентября родители, которые привели детей в белорусские классы, услышали: школа переводится на русский язык. А делать нужно было по-иному — не перепрофилировать белорусские классы, а для желающих создавать классы русские. То же, что было сделано, неверно уже потому, что русскоязычных у нас большинство. Получилось насилие большинства над меньшинством, что вообще недопустимо.

Возвращаясь к вопросу национальности и языка, скажу: сам я — носитель славянской культуры — и белорусской, и русской, и украинской. Я считаю, что это единая культура.

**— Гэта значыць, Вы гаворыце па-беларуску ці ведаеце ўкраінскую літаратуру?**

— Нет, я знаю только русский язык, изучение других мне не требовалось хотя бы потому, что на флоте, где я служил использовался русский. Так вот, я не разделяю на русских и белорусов. Я считаю, что это один народ. Что касается белорусского языка, так ведь и в Вологде говорят не так, как в Новгороде...

Вместе с тем я уважаю людей, которые хотят говорить и учить своих детей по-белорусски. И как депутат Верховного Совета и член фракции коммунистов я готов помогать им, тем более, что они в явном меньшинстве. А мы, коммунисты, готовы помочь белорусскому меньшинству реализовать свои права.

**— Мне даводзілася чуць, што Вы, пражыўшы апошнія тры гады ў Полацку, набылі там вядомасць не як абаронца правоў беларусаў, а наадварот...**

— Это не так. Я никогда не выступал против белорусского языка, а только за равноправие русского и белорусского. Так же и наша партия делала это раньше и делает теперь. Поэтому, даже учитывая то, что русских здесь большинство, мы выступаем за равноправие языков. Главное, чтобы не было насилия — и над русскими тоже.

**— Вы не першы раз гаворыце аб расійскай большасці ў краіне. Але ж тут, пэўна, маюцца на ўвазе расійскамоўныя, бо ж беларусамі падчас апошняга перапісу назвалі сябе 79 працэнтаў грамадзян...**

— На мой взгляд, понятие «белорус» весьма условно. Сам я, белорус по матери, записан в паспорте русским. Одни мои внуки записаны русскими, другие — белорусами, но я не делю их по национальности.

**— Я меў на ўвазе не запіс у пашпарце, а разуменне прыналежнасці да таго ці іншага народа.**

— Главное, на мой взгляд, на каком языке люди говорят. Я не знаю, чем это об'яснить, но, когда я, работая в Уренгое, приходил на телефонную станцию, чтобы позвонить домой, то слышал там татарский, украинский, другие языки. А белорусы говорили с домом по-русски. Хотя никто там этого от них не требовал! Люди хотят говорить по-русски — это их собственный выбор.

**— Гэта не здзіўляе паслятаго, як у СССР, створаным і кіраваным папярэднікамі цяперашніх сяброў ПКБ, прыхільнікаў беларушчыны дзесяцігоддзямі каралі смерцю і турмой за «нацыяналізм».**

— В 30-я годы ни Вы, ни я не жили. Давайте поговорим про то, что наблюдал я сам в 50-х, когда учился в школе.

Мая мать привезла меня в Минск только потому, что в нашей деревне не было русской школы. Ее никто не заставлял, она сама этого хотела. Я помню, как родители учеников правдами и неправдами приносили в школу справки, чтобы не учить белорусский язык — их тоже никто не заставлял. Сейчас мне приходится встречаться с директорами школ, которые в то время получали партийные взыскания за то, что у них закрывались белорусские классы из-за недостатка желающих отдавать в них детей.

Видите ли, в мире умерло много языков. Плохо ли, хорошо ли, но так происходит. И, видимо, белорусский язык ждет та же судьба, как ни горько это сознавать. Этот процесс идет, и обвинять в нем коммунистическую партию неправильно. Ведь я сам знал случай, когда женщину — секретаря райкома КПБ пригласили работать в Минск, в ЦК партии. Но ее не взяли туда только потому, что она не владела белорусским. Это было лет шесть назад. Так что притеснения белорусского языка ни со стороны партии, ни со стороны государственных органов не было.

**— Што прыцягнула Вашую ўвагу да праблем беларускай школы? Бо ж дагэтуль імі займаліся палітыкі іншых, чым Вашыя, поглядаў...**

— Вы говорите про людей, которые пришли в политику около десяти лет назад? На мой взгляд, сегодняшнее состояние упадка нации и культуры вызвано как раз ими и тем, что коммунизм как идеологию, обороняющую культуру и нравственность, убрали и ввели новую.

Наше внимание к белорусскому языку объясняется просто: есть определенные этические нормы и правила. Вы ведь владеете русским языком и, говоря со мной, должны были перейти на него, поскольку я не могу перейти на белорусский, хотя и понимаю его. Культурный человек должен знать язык своего собеседника, чтоб не ставить его в неловкое положение. Поэтому среди коммунистов есть достаточно людей, владеющих белорусским и изучающих его.

Что же касается отношения к белорусскому языку нашего и, например, Народного фронта, то мы, так же, как и эта организация, готовы выступить за сохранение его позиций в жизни общества. Но, в отличие от радикалов, мы не собираемся навязывать его. С белорусами мы можем говорить по-белорусски, с русскими — по-русски.

**— Вы шмат разоў называлі сябе грамадзянінам СССР. Вашая партыя дамагаецца яго аднаўлення. Але ці не апынуцца ў новым Саюзе беларусы ва ўмовах культурнай, моўнай і этнічнай няроўнасці?**

— Да, я гражданин Советского Союза и никто меня этого гражданства не лишал. Бороться за восстановление своей родины — святое дело и мой гражданский долг. К тому же восстановление СССР — часть программы нашей партии. Что же касается второй части вопроса, то приведу Вам собственный пример. Я долго жил за пределами Белоруссии, но мои братья и сестра жили здесь. И от них я ни разу не слышал жалоб на какое-то насилие, потому что его не было. Все они отлично владеют белорусским языком, но по собственной воле говорят на русском. Это — свидетельство равноправия и отсутствия какого-либо национального неравенства. Равноправие я готов защищать с трибуны Верховного Совета.

*Актуальна*

# Пра Бога на роднай мове

***(Чытачы працягваюць размову пра «Голас Душы»)***

Трансляцыю па радыё з Менскага касцёла святых Сымона і Алены набажэнства, якое вядзе ксёндз У.Завальнюк на беларускай мове, мы, веруючыя і атэісты, успрынялі вельмі станоўча. Па-першае, у ёй убачылі адзін з сродкаў ужыўлення беларускай мовы ў такую важную сёння сферу, як рэлігія і рымска-каталіцкі касцёл. Нават для палякаў набажэнства па-беларуску — вельмі патрэбная справа. Карыснае яно і для карэнных жыхароў Заходняй Беларусі, хоць большасць добра ведае польскую мову. Але беларусы-каталікі Гродзеншчыны і Ашмяншчыны, ходзячы ў польскамоўны касцёл, па гэтай прычыне лічаць і называюць сябе палякамі, хаця ў паўсядзённым жыцці карыстаюцца выключна беларускай мовай, бо яны і ёсць беларусы рымска-каталіцкага веравызнання. Увогуле ж, гэтая радыёперадача карысная і патрэбная ўсім жыхарам Беларусі. Нечаканая вестка аб магчымым яе спыненні выклікала не толькі здзіўленне, але і трывогу. Улада робіць яшчэ адну недаравальную памылку. Гэты крок не паслужыць кансалідацыі насельніцтва ў Беларусі.

Дарэчы, радыёперадачу «Голас Душы» не ўсе ў нашых Ашмянах успрымалі прыхільна. Чуў ад немаладых жанчын, што ў ёй «неяк трохі перакручана». Я іх разумею. Вернікі старэйшага пакалення з дзяцінства завучылі малітвы, духоўныя спевы на польскай мове, потым дзесяцігоддзямі іх выконвалі, такія ж слухалі чытанні Евангелля, казанні ксяндзоў. Многія вучыліся ў польскіх школах да 1939 г., таму добра разумеюць набажэнства па-польску. Для такіх людзей больш прыгожа гучаць прывычныя словы Езус Хрыстус, чым Ісус Хрыстос. Прыпамінаю паведамленне ў друку аб спрэчцы навукоўцаў: якія з гэтых слоў лепш ужываць у беларускім перакладзе. Але ж у сваю чаргу ашмянская моладзь адчувае пэўныя цяжкасці ў разуменні польскай касцёльнай службы. Знаёмая з аддзела райвыканкама расказвала, што па гэтай прычыне ездзіла з дарослым сынам на яго першую споведзь у суседні Валожынскі раён у Вішнева, бо там ксёндз У.Чарняўскі многа гадоў касцёльную імшу і гутаркі з вернікамі вядзе толькі на беларускай мове, даказваючы ім гэтым спосабам, што яны беларусы-каталікі.

Такія радыёперадачы, як хрысціянская праграма «Голас Душы», або трансляцыя студыяй «Існасць» па тэлебачанні каляднага набажэнства з касцёла св.Роха на беларускай мове дапамагаюць вернікам больш свядома ўспрымаць рэлігійную навуку, глыбей унікаць у сэнс слова Божага, хутчэй усвядоміць сябе каталікамі-беларусамі, што адпавядае гістарычнай праўдзе. Забараніць перадачу на гэтай падставе неразумна і не на карысць духоўнаму адраджэнню нашага народа.

**Міхаіл ПУЗІНОЎСКІ, ветэран педагагічнай працы.**
г.Ашмяны.

***З нагоды***

# Ёсць такая вышэйшая навучальная ўстанова — сапраўды беларуская

Адразу скажу, што ёю можа сапраўды ганарыцца наша Беларусь. Гэта Беларускі дзяржаўны тэхналагічны універсітэт, 65-годдзе якога адзначалася зусім нядаўна. Ён заслугоўвае асобай павагі. Бо без фанфарнага шуму паўстае перад народам як элітны нацыянальна-тэхналагічны навучальна-навуковы флагман рэспублікі. Элітны таму, што тут студэнтам даюцца глыбокія тэарэтычныя веды ў спалучэнні з канкрэтнымі практычнымі навыкамі, і таму, што навучанне студэнтаў сумяшчаецца з развіццём іх творчых здольнасцяў па ўдасканаленні хіміка-тэхналагічных працэсаў. Другога такога універсітэта ў Беларусі няма. Адзначаная элітнасць забяспечваецца своеасаблівым зместам гэтай ВНУ, заснаваным на непарыўнасці навуковых даследаванняў і навучальнага працэсу. У гэтым будучае вядучай сілы грамадства — спалучэння навукі і адукацыі ў адзінае, узаемна дапаўняючае цэлае, дзе навука пазнае, а адукацыя перадае набытыя веды грамадству для непасрэднага выкарыстання. Вось чаму вельмі пажадана частку адпаведных навуковых устаноў АН Беларусі перадаць БДТУ, дзе б высокакваліфікаваныя даследчыкі былі адначасова і вядучымі выкладчыкамі. У выніку атрымалася б безупыннае павелічэнне магчымасцяў тых, хто пазнае ў навуцы, праз непасрэдныя кантакты са студэнтамі і аспірантамі.

Слова «нацыянальны» прыведзена не выпадкова. Бо калі пад нацыяй разумець пэўную еднасць людзей, заснаваную на асяродненай агульнасці адпаведных этнічна-родавых рысаў, сумесных гістарычна-духоўных набыткаў і звычаяў і дадаткова звязаную адзіным дзяржаўным жыццём у пэўных геаграфічных і геапалітычных умовах, то можна прыйсці да высновы, што адукацыя наогул, а тым больш — спецыяльная, павінна грунтавацца на служэнні нацыянальнай ідэі, гэта значыць — на дактрыне жыццядзейнасці пэўнага грамадства ў пэўных абставінах. У аснове ж дактрыны любой дзяржавы закладзена перш за ўсё захаванне нацыі як самастойнай адзінкі чалавечага грамадства. Таму нічога апроч разбуральнага абсурду не атрымаецца, калі, напрыклад, моладзі ўсяго свету вышэйшую адукацыю даваць выключна ў ЗША альбо — толькі ў Японіі. У адзначаным сэнсе БДТУ з'яўляецца ў сучасны момант сапраўды унікальнай беларускай ВНУ. Тут робіцца вельмі многае для станаўлення самастойнай беларускай адукацыі і навукі, аднесеных на фон сусветнага супольніцтва. Напрыклад, выразна паказана, што магчымасці беларускай мовы для развіцця адукацыі і навукі ніколькі не горшыя, чым іншых моў і ў тым ліку — расійскай. І самае галоўнае ў тым, што робіцца гэта навукоўцамі, па нацыянальнасці расійцамі. Так, падручнік «Асновы агульнай хіміі» створаны прафесарамі Новікавым Г.І. (расіец) і Жарскім І.М. (беларус). Расійка па нацыянальнасці дацэнт Дудчык Г.П. надрукавала вучэбны дапаможнік «Хімічная тэрмадынаміка». Рыхтуецца да выдання падручнік прафесара Бабковай Н.М. «Фізічная хімія тугаплаўкіх неметалічных і сілікатных матэрыялаў». У гэтым годзе будуць выдадзены таксама «Гідроліз соляў» (аўтары — дацэнты С.Я.Арэхава і Т.А.Мацвеева), «Дыферэнцыяльнае злучэнне адной зменнай» (аўтары — дацэнты Звяровіч Л.Ф. і Семянкова А.С.) і інш. Пры гэтым ужо дасканала ўстаноўлена, што беларуская мова не толькі не перашкаджае вышэйшай адукацыі, але сваёй памяркоўнасцю, аналітычнымі магчымасцямі спрыяе як навуковым даследаванням, так і самому працэсу навучання.

**Аляксей САЛАМОНАЎ,**
**прафесар.**

# Невядомы Забэйда

«Паўсюль перавага чужога над сваім», — напісала нашая чытачка Т.Ермаловіч у лісце, надрукаваным у № 4 «Нашага слова» за гэты год. На жаль, гэта і сапраўды так. Але калі беларускія кнігі і газеты дэфіцытам пакуль што не сталі, дык становішча беларускай музыкі значна горшае — з прадаваных паўсюль касет і кампакт-дыскаў, нават запісаных беларускімі выканаўцамі, гучыць чужая мова.

Што рабіць тым, хто хоча слухаць беларускія песні? Звяртацца ў архівы і да калекцыянераў, якія захоўваюць беларускія дыскі.

Выканаўцам, які пакінуў па сабе даволі вялікую спадчыну, быў Міхась Забэйда-Суміцкі. У 60-я гады ў Чэхаславакіі і Польшчы выйшлі некалькі дыскаў з ягонымі песнямі, якія мы і прадстаўляем нашым чытачам.

«Выданне гэтага дыска — навіна ў ЧССР. На ім змешчаныя семнаццаць беларускіх песень і рамансаў, непадобных адна да адной сваім зместам і адмысловасцю музыкі. Дыск дае магчымасць пазнаёміцца з беларускай музыкай, дагэтуль нам невядомай. А пазнанне народнай музыкі з'яўляецца і пазнаннем народа.

Прафесійная беларуская музыка паўстала адносна нядаўна. Аднак да таго народ ужо стварыў мноства песень, на якія абапіраліся ў сваёй творчасці беларускія кампазітары. Дзякуючы таму песні і рамансы захавалі свой народны характар і рысы, уласцівыя славянскаму меласу. Беларускія паэты, якія добра ведалі традыцыі і мысленне свайго народа, свой край, выказвалі ў сваіх творах любоў да роднай зямлі і тугу па лепшым жыцці свайго народа, стварылі цэлую плынь паэзіі. Кампазітары аздобілі яе гармоніяй і красою мелодыяў. Гэтыя песні створаныя сэрцам, і не дзіва, што яны прыпадаюць да сэрцаў слухачоў.

Усе гэтыя песні выкананыя па-беларуску — адной з найпякнейшых сярод славянскіх моваў, гучаннем падобнай і да чэшскай, і да славацкай. Гэта дасць нашым слухачам магчымасць бліжэй пазнаёміцца з беларускай песняй», — напісана ў анатацыі да выдадзенага ў 1968 годзе ў Чэхаславакіі дыска М.Забэйды «Беларускія песні і рамансы». Але на той час беларускую музыку там ужо ведалі — за два гады да таго «Супрафон» ужо выпусціў дыск Забэйды-Суміцкага з запісамі беларускіх і іспанскіх народных песень, выкананых па-беларуску і па-іспанску.

Тады ж, у 60-х, дыск Забэйды выйшаў у Польшчы на фірме «Муза». На ім былі змешчаныя 11 народных песень у апрацоўцы кампазітараў А.Туранкова, А.Грачанінава, С.Казуры, К.Галкоўскага, А.Пэка ды М.Красева.

З таго часу мінула трыццаць гадоў, але песні Міхася Забэйды-Суміцкага, як і калісьці, лепш вядомыя за мяжой Беларусі.

**У.П.**




АЛЕ! АЛЕ!

# Блытаць боб з гарохам — шкодзіць ураджаю

Выходзіць у горадзе Слуцку штотыднёвая газета «Оска»! У нумары за 1 лютага г.г. надрукавала яна артыкул пад рубрыкай «Не могу молчать». Загаловак таксама ўражваў высокім напалам радка Уладзіміра Маякоўскага: «Я русский бы выучил только за то...»

Нехта А.Носаў атакаваў адначасова аўтара гутаркі (якая была апублікаваная ў № 7 за 1996 г. газеты «Слуцкі край») Міхася Тычыну, настаўніцу беларускай мовы і літаратуры слуцкай школы № 7 Н.С.Шушкевіч ды дырэктара згаданай школы А.Казючыца.

Як высветлілася, адказваючы на адно з пытанняў журналіста, Н.С.Шушкевіч пахваліла свайго кіраўніка: маўляў, тым бацькам, якія прыходзілі ў школу ды настойвалі на пераводзе таго ці іншага класа на расійскамоўнае навучанне, дырэктар казаў рашучае «не». Гэтым А.Носаў вельмі абураўся: як гэта так «русским» і нехта асмеліўся пярэчыць.

У канцы нататкі А.Носаў папракае «господ» са слуцкага аддзялення ТБМ імя. Ф.Скарыны, актыўным сябрам якога з'яўляецца Н.С.Шушкевіч, у тым, што яны нібыта лічаць: «для возрождения «родной мовы» хороши абсолютно любые средства, в том числе — и противозаконные».

Пакінем на сумленні аўтара тыя двукоссі, у якія ён узяў нашу родную мову — гістарычную мову карэннай нацыі Беларусі. Звернемся да таго, ці парушыў сп. А.Казючыц Закон аб мовах. Аказваецца, не парушыў. Слуцкая СШ № 7 — беларуская. А бацькі, якія хацелі сваіх дзетак навучыць расійскай мове, мелі поўную магчымасць ажыццявіць свой намер — завесці ўласных сыноў і дачушак у расійскамоўныя школы, дзе вучні будуць знаходзіцца ў аднародным расійскамоўным асяроддзі, калі некаму гэта хочацца.

Што да падзаконнага акта міністра адукацыі спадара В.Стражава, то ягонае распараджэнне носіць другасны характар. А ўсё ж трэба выконваць у абавязковым парадку Закон аб мовах. Такім чынам, распараджэнне мае патрэбу ў рэдагаванні. Напрыклад, у такім: «Любы бацька мае права падаць заяву ў расійскую школу, калі жадае навучаць сваё дзіця на расійскай мове. Калі ж бацька жадае выбраць для дзіцяці беларускую мову навучання, то ён мае права падаць заяву ў беларускую школу. Адмова дырэктараў адпаведных школ у прыёме бацькоўскіх заяў цягне за сабой крымінальную адказнасць».

Так што папракнуць А.Казючыца ў тым, што ён клапоціцца аб захаванні моўнага статуса сваёй школы (калі гэта школа беларуская), нельга. Хай паважаны А.Носаў уявіць сабе такі малюнак: у расійскамоўную школу завітваюць чалавек 11 бацькоў і патрабуюць адкрыцця беларускамоўнага класа. Спадабаецца гэта педагогам? Дырэктару школы? Тым бацькам, якія выбралі сваім дзеткам расійскую мову навучання?

Сёння ў Заходняй Беларусі адкрыты польскія школы. Але чамусьці там не патрабуюць адкрыць беларускія ці расійскія класы. У Менску адкрыта габрэйская школа. Магчыма, такая адкрыецца і ў Слуцку. Можа, згодна логіцы В.Стражава і А.Носава, і ў габрэйскай арганізуюць некалькі расійскіх і некалькі беларускіх класаў? А ў дадатак, можа і ў украінскіх, латышскіх, татарскіх, летувіскіх? Думаецца, падзаконны акт, на які спасылаецца А.Носаў, супярэчыць існасці Закона аб мовах, разбураючы і сам Закон, і мову. Любую.

Як можна адрэгуляваць сітуацыю, думаецца, паказвае вопыт расійскай гімназіі г.Барысава. Вось якая гутарка адбылася паміж журналістам і завучам згаданай гімназіі Аленай Зянонаўнай Каршакевіч. Запіс зроблены ў кабінеце Алены Зянонаўны 2 лютага 1996 г.

**А.К.**: Наша гімназія расійскамоўная, але мы вывучаем беларускую мову... У пачатковых класах — курс беларусазнаўства. Па выбару бацькоў і дзяцей. Каб абудзіць цікавасць дзетак да беларускай мовы, культуры, гісторыі, фальклору, каб выхаваць у дзіцяці нацыянальную свядомасць. На беларускай мове выкладаецца і вывучаецца гісторыя Беларусі, геаграфія Беларусі. Дзеці знаёмяцца са святамі беларускага народа, з гісторыяй гэтых святаў. Удзельнічаюць у іх, спяваюць песні, сцэнкі ўсялякія ставяць.

**А.М.**: Вы паказваеце расійскамоўным дзецям, што яны жывуць у Беларусі, краіне, годнай павагі, краіне славянскага свету са сваім этнічным тварам...

**А.К.**: А як жа! Яны ж тут, у нашай краіне, на нашай зямлі жывуць — трэба паважаць традыцыі гэтага народа. Культуру яго трэба вывучаць і ў расійскамоўнай школе... У нас і гурткі пазакласныя ёсць — фальклорны і драматычны. Перад Вашым прыездам сёння вучні пятых і шостых класаў паставілі для малышоў з 1-х, 2-х, 3-х і 4-х класаў самадзейны спектакль «Сын беларускага народа — Францыск Скарына». Там удзельнічалі і нашы музыкі, якія навучыліся ў гімназіі граць на беларускім нацыянальным інструменце — цымбалах.

**А.М.**: Усё, што вы робіце ў гімназіі, каб даць дзецям уяўленне пра Беларусь і беларушчыну, уражвае. А як Вы, Алена Зянонаўна, аднесліся б да таго, калі б у гімназіі адкрыўся беларускамоўны клас?

**А.К.**: Такі клас мы было адкрылі. Але вельмі хутка пераканаліся, што не трэба гэтага рабіць, каб пазбегнуць блытаніны. Гэтаму класу, беларускамоўнаму, цяжка было б у пятым класе. Дзе знайсці тых выкладчыкаў, якія б на чыстай беларускай мове вялі ўрокі? Вось мы ўсе размаўляем на «трасянцы» і будзем далей размаўляць на «трасянцы», калі пачнём ствараць гэткую блытаніну. Дарэчы, у Барысаве ёсць беларуская гімназія.

**А.М.**: Карацей, Вы за тое, каб была чысціня статуснасці школ: у беларускай школе не павінна быць расійскамоўных класаў, а ў расійскіх школах — беларускамоўных?

**А.К.**: Я лічу так.

* * *

Ці можна абурацца той акалічнасцю, што кіраўніцтва расійскай гімназіі № 1 г.Барысава параіла «беларускамоўным» бацькам адвесці сваіх дзетак у беларускую гімназію? Відаць, не. А тым, што ў беларускіх школах ствараюць расійскамоўныя класы? А тым, што чыноўнікі ад адукацыі ствараюць абсурд?

Мова — рэч тонкая. І развівацца яна павінна па сваіх законах, а не па недальнабачных загадах, падзаконных актах і амбіцыях. Інакш атрымаем пакаленне, якое не будзе ведаць ні беларускай, ні расійскай моваў. Урэшце, а чаму гэта ў Расіі не чутна, каб адкрывалі беларускамоўныя класы ў месцах масавага пражывання беларусаў?

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА,**
**сябра Беларускага**
**Хельсінкскага камітэта.**

*Да 200-годдзя з дня нараджэння Яна Чачота*

# Таленавіты і адданы

200-годдзе з дня нараджэння Яна Чачота — гэта юбілей не толькі канкрэтнай гістарычнай асобы, але і круглая дата для фалькларыстыкі — навукі, якая займаецца запісам і даследаваннем вуснай паэтычнай творчасці народа. Ян Чачот быў, бадай, самым першым, найбольш таленавітым і адданым фалькларыстам свайго часу. Яго запісы і сёння з'яўляюцца неацэннай крыніцай для спасціжэння духоўнага вопыту продкаў.

Сярод песень, запісаных Янам Чачотам, вылучаюцца практычна ўсе жанры і цыклы земляробчага календара беларусаў: калядныя, валачобныя, веснавыя, купальскія і г.д. Гэтыя песні ствараюць яскравы кантэкст святаў з іх міфапаэтычнымі ўяўленнямі і прыметамі. Нельга забываць, што запісваліся яны на пачатку мінулага стагоддзя і таму змяшчаюць у сабе даволі архаічныя элементы. Так, у купальскай песні, якая вымалёўвае засцерагальныя рытуалы гэтага адказнага для земляроба часу — «каб змяя заломаў не ламала, у жыце карэнне не капала, у кароў малако не адбірала» — з'яўляецца «няпесенны» заклінальны матыў: *«Адбяры, божа, таму ручкі, ножкі, са лба вочкі».*

Даволі многа Ян Чачот запісаў жніўных песень. Узятыя разам, яны даюць абагулены вобраз жніва як працоўнага подзвігу, гучаць як гімн хлебу, ураджаю, як гімн простаму чалавеку працы. Асобна хацелася б прыгадаць песні з выразнымі сацыяльнымі матывамі, гаварыць пра якія сёння стала не «модна». Аднак нельга забываць, што гэта запісы першай палавіны XIX ст. Кранае непадробнай шчырасцю паэтычны зварот да сонца — *«Сонца, сонейка, ці была ты ў найме»* — і студзіць сэрца катэгарычнае: *«Бадай таму цямней было, хто да хаты не пускае».* А наступную жніўную песню без перабольшвання можна лічыць сапраўдным шэдэўрам:

*На гарэ Тацянка пшонку жнець,*
*З цёмнага лясочку тучка ідзець.*
*— Чы не баішся, Тацянка, гэтай тучанькі?*
*— А за што я маю яе баяцца?*
*У гэтай тучцы мая мамка:*
*А ні ветрам мяне абвеіць,*
*А ні дажджом абліець,*
*Доляй, шчасцем агарнець.*

І сёння цяжка сказаць: адбітак гэта былога анімістычнага светаўспрымання ці выказванне самой душы надзвычай паэтычнага, таленавітага селяніна-беларуса...

Значную частку фальклорных запісаў Яна Чачота складаюць вясельныя песні. Цэнтральнае месца ў іх, натуральна, адводзіцца вобразу нявесты, маладой дзяўчыны, яе пачуццям, перажываннем, надзеям і страхам. Расстанне з роднымі, ад'езд на «чужыдальнюю старонку», канец дзявочага раю — усё гэта прадстаўлена ў канкрэтных сюжэтных сітуацыях, выпісаных псіхалагічна вельмі дакладна, нават асцярожна. Душа нявесты — што палахлівая лясная птаха, і народны талент сумеў, здолеў адбіць яе стан у пранікнёных і адначасова сціплых радках.

Лірычныя песні ў запісах Чачота падкупліваюць сваёй адкрытасцю, той наіўнай непасрэднасцю, калі нават грубаватыя словы натуральна ўпісваюцца ў кантэкст шчырага выражэння пачуццяў. Сярод іх адвечныя жаночыя песні-скаргі на няўдалы жаночы лёс, калі лірычная гераіня «не так жыве, як гаруе», песні пяшчоты і захаплення, песні радасці і гора. Менавіта Чачоту належаць найбольш раннія, поўныя, паэтычна выразныя варыянты шматлікіх балад: «Тры птушачкі ля забітага малойчыка», «Бандароўна», «Бервянец-травіца, то брацітка і сястрыца», «Бяроза і явар на магіле закаханых» і інш.

**Таццяна ВАЛОДЗІНА.**

*Ян ЧАЧОТ*

## Жніво

Пара, жонкі, дамоў ісці,
Пацярала зара ключы,
Каля постаці ідучы,
А з месяцам гуляючы,
А з сонейкам гукаючы.
А ўзыйдзіце самі зоркі,
А знайдзіце ключы звонкі:
Пара зямлю адмыкаці,
Пара расу выпушчаці.
А першую ледавую,
А другую— медавую.
Ледавая — свякраткава,
Медавая — таткава.
Ледавая каля плоту,
Медавая каля стала.
Ледавую калом прыб'ю,
Медавую з людзьмі пап'ю.

* * *

Не сячы, а мой татанька, ля дарожкі бярозкі,
Не бяры, мая маманька, у крыніцы вадзіцы.
Не касі, а мой брацетка, у лужочку травіцы,
Не шчыплі, мая сястрыца, у садочку цвяточкаў —
Ля дарожкі бярозка — я сама маладзенька,
У крыніцы вадзіца — мае дробныя слёзкі,
У лужочку травіца — мае русыя коскі,
У садочку цвяточкі — мой руцвяны цвяточак.

*Да 75-годдзя Таварыства беларускай школы*

# За долю і волю

*(Працяг. Пачатак у №№ 1,2,4,5.)*

**Сябры ТБШ.** Вялікім клопатам Галоўнай управы ТБШ з'яўлялася ўтварэнне народных хораў і аркестраў. Сакратар управы, фалькларыст і грамадскі дзеяч Рыгор Раманавіч Шырма пісаў у «Беларускім летапісе» (№ 1, 1939), што найлепшыя хоры былі пры беларускіх гімназіях у Вільні, Клецку, Навагрудку і Радашкавічах. А найлепшыя хоры пры гуртках ТБШ былі ў Вілейцы, Навагрудку, Заполлі, Ярэмічах, Новым Свержані, Вялікіх Грынках, Беластоку і Гарадку Беластоцкім. За час свайго існавання ТБШ зладзіла каля паўтары тысячы канцэртаў і спектакляў. Значную ролю ў пашырэнні народнай песні адыграў і Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры, што меў свае хоры ў Вільні і Будславе. Галоўным беларускім хорам, калі можна так сказаць, быў хор, якім кіраваў Рыгор Раманавіч. Яго публічныя канцэрты ладзіліся некалькі разоў



**К.Галкоўскі**

на год і карысталіся выключным поспехам, выклікалі буру авацый. Аб іх пісаў і беларускі, і польскі друк. Вянком дырыжорскай і мастацкай працы Рыгора Раманавіча стаў вечар славянскай песні, які адбыўся 17 чэрвеня 1928 года. На канцэрце хор у 70 чалавек і салісты выканалі 15 новых беларускіх песняў, напісаных спецыяльна для гэтага канцэрта віленскім кампазітарам Канстанцінам Галкоўскім. У той час Рыгор Шырма кіраваў хорам у Віленскай беларускай гімназіі, дзе працаваў выкладчыкам. Таму можна сказаць, што з Віленскай гімназіі і пайшла ў шырокі свет беларуская песня (нагадаю, што першы беларускі хор быў створаны ў Вільні ў 1910 г. кампазітарам Л.Рагоўскім). Праз шмат гадоў, калі адзначалася 15-годдзе творчай дзейнасці маэстра, публічны канцэрт даваў хор Беларускага студэнцкага саюза, якім кіраваў юбіляр. Канцэрт адбыўся 3 сакавіка 1939 г. Праграма складалася амаль выключна з новых бела-



**А.Грачанінаў**

рускіх песень, пераважна народных, якія прагучалі ў музычнай апрацоўцы А.Грачанінава, К.Галкоўскага, М.Гайваронскага, Уладзімірскага, А.Кошыца і іншых кампазітараў. Хор — мяшаны і жаночы — выканаў каля 25 новых беларускіх песняў. У зале пераважала студэнцкая і вучнёўская моладзь. Спыняюся на гэтых фактах дзеля таго, каб падкрэсліць выключную асабістую ролю Шырмы ў прапагандзе беларускай народнай песні, у выніку чаго яна набыла шырокую аўдыторыю і прафесійную сцэну. У артыкуле «Да гісторыі працы над беларускай песняй» («Беларускі летапіс» № 1, 1939) Шырма пісаў: «Дагэтуль людзі чулі беларускую песню адно толькі няўмела пяяную нявырабленымі галасамі вяскоўцаў, але і тады яна хараством сваім задзіўляла слухачоў. Цяпер яе, у мастацкай апрацоўцы выдатных кампазітараў, пяюць публічна артысты, спеў каторых сам па сабе ёсць хараство, а ў злучэнні з хараством песні папросту чаруе кожнага, хто толькі здольны адчуваць красу наогул. Выступленні слаўнага спявакі нашага Міхала Забэйды-Суміцкага, найвыдатнейшага мастака, каторы ў канцэртных салях і праз радыё гэтак хораша выпаўняе беларускія народныя песні, раскрылі перад усім культурным светам музычнае багацце беларускага народа. Такую ж ролю выпаўняюць і беларускія хоры».

Заслуга Рыгора Раманавіча яшчэ і ў тым, што ён прыцягнуў да працы над беларускай песняй вядомых у свеце кампазітараў. Яны залічаны да культуры іншых народаў, але тым не менш зрабілі значны ўклад у нашу культуру, вывеўшы беларускую песню са стану Папялушкі і даўшы класічныя ўзоры яе апрацоўкі. А голад на беларускую песню тады быў вялікі. Пры культурна-асветных арганізацыях, асабліва пры суполках ТБШ, працавалі шматлікія творчыя калектывы, рэпертуар якіх неабходна было папаўняць. Гэту задачу і ўсклаў на сябе Шырма з паплечнікамі. Іх дзейнасць мела практычнае выйсце ў масы і абумовіла, урэшце, велізарны росквіт народнай песні ў Заходняй Беларусі. Можна толькі пазайздросціць таму часу, у які сотні народных песняў гучалі са сцэны і з вуснаў вясковых жанок. І ўсе іх ведалі, любілі і шанавалі. У 1933 г. два славутыя народныя хоры ТБШ — Старасвержанькі і Вялікагрынкаўскі — святкавалі свае пяцігадовыя юбілеі (рэгенты М.Гарановіч і А.Сахарчук). Як пісалася ў друку, дзякуючы гэтым калектывам беларуская песня выцесніла чужыя «брандзюшкі» і запанавала сярод вясковай моладзі.

Усю працу ў галіне беларускай музыкі і песні Рыгор Шырма сканцэнтраваў пры хоры Беларускага студэнцкага саюза. Тут было сабрана больш за тысячу народных мелодый, адсюль цягнуліся ніці, якія лучылі беларускую песню са шматлікімі прадстаўнікамі музычнай культуры. Гэта праца вылілася пазней у двухтомнае выданне беларускіх народных песняў, якое выйшла ў музычнай апрацоўцы названых вышэй кампазітараў у даваеннай Польшчы. Зборнік жа песняў для беларускіх школ і народных хораў (усяго 70) так і не пабачыў свету — быў «замардаваны» Міністэрствам асветы.

Як ужо гаварылася, першым кампазітарам, з якім пачаў супрацоўнічаць Рыгор Раманавіч, быў **Галкоўскі**. З яго аранжыровак амаль выключна складаліся праграмы першых канцэртаў хору Шырмы. У савецкі час хоры Галкоўскага ўваходзілі ў рэпертуар Дзяржаўнай харавой акадэмічнай капэлы пад кіраўніцтвам Шырмы. У артыкулах, прысвечаных працы кампазітараў на ніве беларускай музыкі, Шырма пісаў, што прыход Галкоўскага ў беларускую музыку быў вельмі карысны. Ён адразу вывеў песню нашу з рамак прымітыву. Кампазітар палажыў на музыку вершы многіх беларускіх паэтаў (рамансы), гарманізаваў некалькі дзесяткаў беларускіх народных песняў і напісаў на беларускія народныя матывы сюіты «Дуда» і «Каханне». Яго лепшыя песні «Чорныя вочы», «Чумак», «Ды хто, ды хто», «А мне трудна», «Вецер вее», «Ах ты, салавей».

**Аляксандру Грачанінаву** Шырма прысвяціў некалькі артыкулаў у «Летапісе». Кампазітар жыў у Парыжы і яму, як і А.Кошыцу з М.Гайваронскім, што жылі ў Амерыцы, Шырма дасылаў песні ў сваім запісу па пошце і прасіў іх апрацаваць. У адказ кампазітар



**А.Кошыц**

пісаў: «Песні Вашы цудоўныя, з іх адну я скарыстаў дзеля напісання скрыпкавае песні, якая, магчыма, будзе называцца «Дар Белай Русі». У сваіх мемуарах Грачанінаў таксама прызнаваўся: «Я меў магчымасць пазнаць песні ўсіх народаў Расеі, з якіх асабліва палюбіў беларускія» (1934). Высока ацэньваючы ўклад кампазітара ў гісторыю развіцця беларускай песні, аўтар артыкула прыводзіць вялікі спіс твораў, напісаных для хору і аднаго голасу («Конь бяжыць, зямля дрыжыць», «Перапёлка», «Раёк», «Перад Пятром», «Чаму селязень», «Зялёны гай», «Кукавала зязюля», «Ці ў полі не калінка была», «Купалінка», «Калыханка», «Вяснянка» «Там каля млына», «На дварэ дожджык», «Ой, пайду я лугам, лугам», «Ой ты, грушка мая», «Ляціць сарока» і інш.).

**А.Кошыц і М.Гайваронскі** — «два слаўныя ўкраінскія кампазітары», як пісаў аб іх Шырма, на яго думку, стварылі новы накірунак у беларускай музыцы, дзе высокая музычная культура сплятаецца і арганічна зрастаецца з творчасцю нашага народа, у выніку чаго нараджаюцца мастацкія скарбы агульналюдскага значэння. Кошыц напісаў некалькі выдатных абрадавых песняў («Там за садамі», «Лугам зяленненькім», «Прасвятая Марыя» і інш.). Да ліку лепшых песень Гайваронскага Рыгор Раманавіч адносіў наступныя: «Ой, загуду», «Лявоніха», «Ой, гукнула, сыраежка», «Як пайшоў Мікола», «Ой, у полі дзве птушачкі», «Ой, ляцелі ды два галубочкі», а таксама харавую музыку да слоў М.Танка, Я.Коласа, П.Труса («Дзве вярбы»,



**М.Гайваронскі**

«Пройдуць гады», «Месяц»). Адзначу, што творы названых кампазітараў «Летапіс» рэгулярна падаваў для народных хораў. Беларускія песні апрацоўвалі таксама С.Казура, А.Валынчык, А.Евец, А.Нікольскі, Янчук. Завяршаю сказанае словамі незабыўнага Рыгора Раманавіча Шырмы: «Беларускі народ і грамадзянства павінны ведаць сваіх прыяцеляў».

**Ірына КРЭНЬ.**

# В Е Р У Е М



**Святлана Чыжык** — паслушніца Свята-Нікольскай царквы, што нядаўна пачала дзейнічаць у Мазыры. Святлана яшчэ і настаўніца нядзельнай школы, хаця вучыцца і сама — у Палескім універсітэце. Каля 50 вучняў прыходзяць у школу, дзе іх чакае шмат цікавага.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

## Што для мяне малітва?

Не люблю маліцца перад абразамі, якія часцей за ўсё не спрыяюць канцэнтрацыі думкі. Хаця наогул добрае мастацтва, якое можа на мяне ўздзейнічаць, дапамагае, безумоўна, скіраванню думкі да Бога. Памагае мне ў гэтым — несумерна — навакольная прырода, і то не толькі тая магутная і велічная, як у гарах, што ўздымаюцца да Творцы. Нават дома ранішнюю малітву гавару стоячы, углядаючыся ў зелянінудрэў і блакіт неба за акном.

Як выглядае сама малітва? Шмат месца займаюць у ёй мае жыццёвыя справы, нават вельмі «прыземленыя». Надараецца, што яны дамінуюць і нібы заглушаюць усе іншыя. Лічу гэта недапушчальным і стараюся перамагчы сябе. Па характары я схільны да роздуму, а таму і малюся падобным чынам. Мая малітва — гэта роздум над сабой, над сваімі поглядамі ды іх фармаваннем. Такую малітву лічу асабліва каштоўнай і важнай, а таму імкнуся яе ўвесь час развіваць, але імкнуся развіваць і такую малітву, якая была б прысвечана выключна пакланенню Богу. Наогул, адчуваю патрэбу «насычэння» жыцця малітвай.

Шмат хто гаворыць: жыццё малітвы можна весці толькі ў манастыры, што не для нас — загубленых у веры і бязладдзі сучаснага свету, захоленых штодзённым змаганнем за побыт. Але я ўжо ведаю, што менавіта ў гэтым віры і бязладдзі малітва з'яўляецца цудоўным заспакаяльным сродкам, які дазваляе знайсці сябе, дае ўнутраную моц і лагоду духа. Але нельга забываць (а я схільны часам чыніць), што гэта не толькі цудоўны сродак псіхічнай гігіены, але яе каштоўнасць, глыбейшая, праўдзівая, істотная знаходзіцца ў надпрыроднай сферы.

Асобная праблема — рэлігійныя выпрабоўкі. Такіх, у якіх адчуў амаль адчувальную (суб'ектыўна, безумоўна) блізкасць Бога, меў нямала. Кожная з іх была іншай і адзінай. Найманцней і найглыбей перажыў першую. Натуральнай прычынай, якая яе выклікала, быў адзін вельмі прыкры і балючы выпадак, што выявіў людскую слабасць і людское зло. Тады я адчуў блізкасць Хрыста, пакутуючага на крыжы, і супакутаваў разам з ім.

**Мужчына, 23 гады, адукацыя вышэйшая, жыве ў вялікім горадзе.**
(Перадрук з кнігі «Безымянныя гавораць пра малітву».)

*Радок з Евангелля*

## Легіён

Сустрэўшы ў Гадарымскай зямлі чалавека, апантанага злымі духамі, Езус захацеў дапамагчы яму. «Легіён імя маё» — пачуў ён у адказ на патрабаванне да д'ябла назваць сваё імя. Тое, што адбылося далей, апісана ў евангеллях Марка (5, 1-20), Лукі (8, 26-39) ды Мацея (8, 28-34). Выгнаўшы злых духаў з цела чалавека, Езус перасяліў іх у статак свіней, якія кінуліся ў ваду і патапіліся.

Сёння мы ўспрымаем гэты эпізод, як доказ імкнення Збаўцы дапамагчы кожнаму, хто церпіць. Але калісьці ён меў іншы, падвойны сэнс.

Хрыстос і чалавек, якому ён дапамог, гаварылі між сабою па-арамейску. Але чаму з вуснаў апошняга прагучала чужое, лацінскае слова «легіён», якое, акрамя вялікай лічбы, датычыла яшчэ і адзінкі рымскага войска?

Рэч у тым, што краіна, у якой навучаў людзей Хрыстос, была акупаванай Рымам. І вайсковай адзінкай, якая кантралявала край і здушвала збройны супраціў рымлянам, быў дзесяты рымскі легіён, што стаяў гарнізонам у Ерусаліме. Эмблемай легіёна была выява дзіка, якую мясцовыя жыхары з пагардаю называлі «свіннёю» — нячыстай, паводле канонаў іхняй веры, жывёлай.

«Легіён імя маё» — гэта і ёсць прыхаванае параўнанне акупацыйнай арміі са статкам свіней, занатаванае двума евангелістамі — Лукой і Маркам.

**У.П.**

*Да 2000-годдзя хрысціянства*

***Некалькі гадоў засталося да сама вялікага, сама значнага юбілею ў гісторыі чалавецтва. Падзея гэтая супадае з пачаткам сучаснага хрысціянскага адраджэння. Тысячы людзей, знявераных атэізмам, зноў вяртаюцца да Бога, слухаюць слова Хрыстова, прымаюць Ягонае вучэнне — становяцца хрысціянамі, вызнаўцамі рэлігіі, якая вучыць дабру. Прапануем чытачам кароткі пераказ гісторыі хрысціянства. Задача гэтая несувымерная з магчымасцямі нашай газеты, але мы ўсведамляем свой абавязак. Да таго ж, апроч безумоўна патрэбнай веды пра ўзнікненне і пашырэнне рэлігіі, да вызнаўцаў якой мы сябе залічаем, шмат якія старонкі гісторыі хрысціянства будуць цікавыя нам, беларусам, праз іх падабенства да гісторыі нашага народа.***

***Гэтым разам падамо звесткі пра той край, дзе карані хрысціянства. Магутныя дзяржавы, царствы, імперыі ўзнікалі і разбураліся ў гэтым кутку Усходняга Міжземнамор'я за тысячы гадоў да Хрыстовага нараджэння. Ад некаторых з іх не засталося і следу, рэшткі велічы іншых вядомыя толькі археолагам. Толькі Божае Царства, насуперак злу, няпраўдзе і паняверцы, мацнее.***

***Адгорнем хоць бы адну старонку гісторыі.***

## Не толькі плач на рэках вавілонскіх

Жыў недалёка ад Віфліема пастух Амос. Аднойчы яму з'явіўся бог Яхве і загадаў направіць свет. Амос пайшоў у Самарыю, сталіцу Ізраіля — аднаго з двух царстваў (другім стала Юдэя), на якія распалася дзяржава Давіда і Саламона. Гэты горад уразіў Амоса юрлівасцю і раскошай ягоных жыхароў, здзекамі багатых над беднымі. Абураны пастух, хоць і не лічыў сябе прарокам, пачаў ля храма заклікаць людзей не абражаць Бога і папярэджваў, што Яхве пакарае нягоднікаў. Амоса прагналі з Ізраіля. Але неўзабаве прароцтвы пастуха пачалі збывацца. Спачатку асірыйскае войска захапіла Юдэю, выганяючы ў Асірыю жыхароў яе гарадоў. Але Ерусалім застаўся вольным. Праз некалькі гадоў у гэтай сталіцы з'явіўся вялікі прарок Ерамія. Ён фанатычна любіў свой народ, а маральнае падзенне жыхароў краіны, сацыяльную няроўнасць і палітычную слепату суайчыннікаў лічыў за асабістую трагедыю. Ён прарочыў пагібель Ерусаліму. Так і здарылася. Вавілонскі цар Навуходаносар двойчы захапіў сталіцу Юдэі. Апошнім разам у вавілонскі палон пагналі сем тысячаў ізраільскіх мужоў і тысячу рамеснікаў. (Чытаючы кнігу Г.Сагановіча «Невядомая вайна», міжволі параўноўваеш падзеі, апісаныя беларускім гісторыкам, і падзеі больш 2500-гадовай даўніны.) Там ізраільскія палоннікі будавалі царскія маёнткі, абвадняльныя каналы. Шмат хто добра ўладкаваўся ў мільённым Вавілоне, які быў цэнтрам міжнароднага гандлю. Некалькі габрэйскіх плямёнаў зніклі, растварыўся ў Навававілонскай дзяржаве. Але большая частка выгнаннікаў, што аселі хаўрусамі ў гарадах і паселішчах, не выракліся сваіх старажытных звычаяў, не працавалі ў суботу, адзначалі ўсе рэлігійныя святы. Як напісаў пазней паэт, юдэйцы, збіраючыся разам на беразе ракі Еўфрат, плакалі і, успамінаючы Ерусалім, спявалі песні і марылі вярнуцца. У іх, як і даўней, меліся свае жрацы, прарокі і важакі, у дамах якіх юдэйцы збіраліся дзеля сумесных маленняў. Так з'явіліся правобразы сучасных сінагог. Але ўжо тады вылучыліся людзі, якія збіралі і сістэматызавалі духоўную спадчыну. Выгнаннікі пачалі аналізаваць гісторыю свайго народа, выяўляць прычыны няшчасця. Паступова, праз пакуты выгнання змяніліся адносіны да Яхве, бога, паводле юдэйскіх уяўленняў, помслівага, які за бацькоўскія грахі карае дзяцей аж да чацвёртага калена. Але чаму Яхве настолькі несправядлівы, што карае вінаватых і невінаватых? Развагі над гэтай супярэчнасцю схілілі ўрэшце да ідэі месіянства: юдэйскі народ абраны богам Яхве, каб пакутамі ачысціцца ад граху і несці ў свет веру ў адзінага Бога, магутнага і добрага. Прарок Езекііль, галоўны выказнік месіянства, агаласіў прынцып асабістай адказнасці кожнага за свае правіннасці словамі, што сын не будзе пакараны за бацькаву віну і бацька не будзе мець сынавай віны, што праўда праведніка, а беззаконне беззаконнага пры іх і застануцца.

### Вяртанне

Пасля смерці Навуходаносара пачаўся занепад Вавілона. У 558 годзе да Х.н. правадыр аднаго з персідскіх плямёнаў Кір абвясціў сябе царом персаў. Ён захапіў Малую Азію, а пасля і Вавілон. Кір быў заваёўнікам іншага складу, чым асірыйскія і халдзейскія цары. Ён не разбураў заваяваныя гарады, не знішчаў іх жыхароў, не дазваляў сваім жаўнерам рабаваць і свавольнічаць. Жыццё заходнеяй краіны не мянялася. Апроч таго, персідскі заваёўнік даў яе народам аўтаномію. Праз год пасля захопу Вавілона Кір дазволіў юдэйскім выгнаннікам вярнуцца ў Ерусалім. На радзіму выбралася блізу 50 тысячаў чалавек. І хоць заможныя юдэйцы засталіся ў Вавілоне, яны аднак шчодра давалі сродкі на адбудову Ерусалімскага храма, а таму рэпатрыянты, апроч вернутага загадам Кіра літургічнага начыння з былога галоўнага юдэйскага храма, везлі з сабой сапраўдныя скарбы. Захаваўся дакладны перапіс каравана: 736 коней, 245 мулаў, 6720 аслоў і 535 вярблюдаў.

### Адраджэнне

Юдэйцы спачатку ўзяліся адбудоўваць храм, але самарыцяне перашкаджалі ім набегамі, разбуралі адноўленыя сцены. Таму будаўніцтва храма спынілася, а новыя жыхары Ерусаліма сталі ладзіць свой побыт. Праз дапамогу чарговых персідскіх цароў Дарыя Першага і Артаксеркса Першага, які паспрыяў вяртанню на радзіму другой чарадзе рэпатрыянтаў на чале з вучоным мужам Ездрам, храм быў дабудаваны. Ездра пачаў праводзіць рэформы, якія павінны былі адрадзіць Юдэю. Ён нат дамогся выдання дэкрэта, каб усе юдэйцы, жанатыя на чужаземках, за тры дні адаслалі жонак у іх родныя краіны. І хоць такімі жорсткімі мерамі юдэйскі народ захаваў свае расавыя і рэлігійныя асаблівасці, ладу не было.

Чарговым збаўцам стаў Неемія, прыдворны Артаксеркса Першага. Перш за ўсё ён прымусіў усіх жыхароў будаваць сцены Ерусаліма, каб абараніць сябе ад разбойнікаў і варожых плямёнаў. Але і тыя не чакалі, калі будзе скончана будаўніцтва, а пагражалі. Неемія вымушаны быў узброіць будаўнікоў. Сцены былі адноўлены за 52 дні. Пасля Неемія вырашыў сацыяльныя праблемы. Ён вызваліў беднякоў ад падаткаў, а багатых клятвамі прымусіў адрачыся займацца ліхвярствам ды вярнуць беднякам палеткі, вінаграднікі і сады, забраныя за несплачаныя даўгі. Неемія з'ехаў праз 12 гадоў, але пазней усё ж вярнуўся і ўбачыў парушэнні сваіх запаветаў. Яму давялося навесці парадак у першую чаргу ў храме, дзе скнарыжрацы не хацелі дзяліцца прыбыткам з іншымі храмавымі служкамі. А напярэдадні суботы Неемія загадаў замыкаць гарадскія брамы, каб купцы не маглі гандляваць. Давялося зноў прымушаць юдэйцаў выракацца сваіх жонак-чужаземак.

*(Працяг будзе.)*

**Падрыхтаваў З.С.**

## Ахвяра ў Старым і Новым Запаветах

У Старым Запавеце шмат гаворыцца пра ахвярапрынашэнне. Запаведзі Старога Запавету вызначылі нормы паводзінаў для тагачаснага народа Божага. І калі гэтыя нормы парушаліся, г.зн. выяўляўся грэх, то трэба было прынесці ахвяру за грэх. Адзін з духоўных законаў кажа, што кожны грэх мусіць быць пакараны. Другі духоўны закон гаворыць: без праліцця крыві не бывае даравання. За грэх чалавека прыносілі ў ахвяру, інакш кажучы — забівалі, ягнят і бычкоў. Пакаранне за грэх чалавека неслі іншыя істоты, якія не мелі аніякага дачынення да гэтага грэху. І дзякуючы таму, што за чалавека лілася кроў беззаганных жывёлаў, чалавек вызваляўся ад пакарання. На ахвяру са статку выбіралася самая лепшая жывёліна ў гадавым узросце, не дазвалялася выбіраць ахвяру з якім колечы фізічным недахопам альбо калецтвам. Гэта сімвалізавала дасканаласць, беззаганнасць і чысціню.

Гэтыя ахвяры асвячалі апаганеных, але ліквідаваць грэх яны не маглі. Інакш не патрэбна было б із году ў год прыносіць. Маленькія, беззаганныя, безабаронныя жывёлы паміралі ў адкупленне за грахі людзей.

Мы жывём у час Новага Запавету, і час гэты адметны тым, што нам не патрэбна прыносіць ахвяры іншых жывых істотаў за нашыя грахі. Пакаранне за грахі ўсіх людзей было ўскладзена на Сына Божага — Ісуса Хрыста. Ён быў беззаганны і бязгрэшны, і таму гэтая Яго Ахвяра была дасканалай. І гэтую вестку, вестку пра смерць Ісуса на крыжы, я, як і шмат іншых вернікаў, абвяшчаю. І гэта для мяне найвялікшая прывілея — абвяшчаць з вераю ў сэрцы пра крыж Хрыстовы. За нашыя грахі пакараны быў Хрыстос. Калі мы вераю прымаем Яго Ахвяру, то праз гэтую веру ў Хрыста атрымоўваем жыццё вечнае, становімся грамадзянамі Нябеснага Царства. Кожны чалавек павінен пакаяцца, змяніць жыццё. Будзем вартыя нашага збавіцеля. Праз веру ў Хрыста мы атрымоўваем Божую прыроду, становімся сынамі і дочкамі Усемагутнага Бога.

Бог дае нам прабачэнне і шанс на жыццё вечнае. Нам трэба працягнуць руку і ўзяць тое, што дадзена кожнаму чалавеку. Працягнутыя рукі — гэта наша малітва. Госпад сказаў, што не прагоніць таго, хто прыходзіць да Яго. Зрабіце крок насустрач Богу — і Ён ніколі не пакіне.

**Андрусь ДЫЛЮК.**

**Беларускае Адраджэнне**

*Алена ЯСКЕВІЧ,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Унутраная форма слова ў яго гістарычным функцыянаванні

Навейшая лінгвістыка ўсё больш пачынае цікавіцца непасрэдна ўнутраным сэнсавым напаўненнем слова («планам зместу», паводле вядомага вызначэння Л.Ельмслева), у той час як у ранейшых даследаваннях моўныя феномены вывучаліся пераважна з боку «плана выражэння», г.зн.фанетыка-граматычнай, урэшце, сінтаксічнай маніфестацыі. Аднак распрацоўка методык для непасрэднага ўваходжання ва ўнутранае змястоўнае ядро слова давалася цяжка.

І тут выявілася, што найбольш прыдатным для раскрыцця плана зместу аказалася вучэнне аб унутранай форме слова, распрацаванае ў свой час Вільгельмам фон Гумбальтам і працягнутае на ўсходнеславянскай глебе ў арыгінальных даследаваннях А.А.Патэбні.

Сваю канцэпцыю В.фон Гумбальт пачынае з унутранай формы (этымона) мовы, гэтага глыбіннага моватворчага генія, што «ахоплівае паняційныя і сінтаксічныя мажлівасці той ці іншай мовы, з'яўляючыся ключом да ацэнкі ўсяго, што мысліцца і выказваецца ў дадзенай мове»*.

Як цэлае ў частцы, яна мае сваю канкрэтную рэалізацыю ва ўнутранай форме слова, адначасова знаходзячыся ў адзінстве са сваім знешнім праяўленнем. Сфера ўнутранай формы слова — гэта, па сутнасці, сфера змястоўнага жыцця слова, яго росту, пашырэння, звужэння, пераасэнсавання, адгалінення, абасаблення і інш. Такім чынам, праз змяненні ва ўнутранай форме слова пралягае адзін з асноўных напрамкаў лексічнага развіцця мовы. На думку вучоных, усе істотныя змены ў лексемах абумоўлены пэўнымі зрухамі ў іх унутранай форме.

Хаця ў поглядах на ўнутраную форму слова да гэтай пары няма адзінства думак, вучоныя выдзяляюць у гэтым паняцці наступныя аспекты.

Само паняцце ўнутранай формы мовы большасць даследчыкаў разумее як матываваную сувязь назваў новых прадметаў з ужо вядомымі словамі. У аснову ж унутранай формы слова кладзецца нейкая неабходная для адрознення прыкмета, якая робіцца прадстаўніком пэўнага прадмета, дапамагае прыгадаць яго ў непадзельнай цэласнасці.

Зразумела, кожны прадмет мае свае шматлікія прыкметы, якімі ён адрозніваецца ад групы іншых прадметаў. Тая прыкмета, якая найбольш кінулася нам у вочы і перадае галоўны змест адпаведнага прадмета, называецца матывіроўкай, што і абумоўлівае яго славесную назву. Матывіроўка, па сутнасці, стрыжань, на які нанізваюцца іншыя значэнні, сувязі ў слове і паміж словамі. Выбар рысы, якая кладзецца ў аснову матывіроўкі, часцей за ўсё выпадковы і залежыць ад складу этнічнага мыслення. Мабыць, ад таго і розныя народы кожны па-свойму называюць адзін і той жа прадмет, беручы тую ці іншую прыкмету ў аснову наймення. Спачатку гэта насіла ў знайчнай меры выпадковы характар, потым у традыцыі мовы стала ўспрымацца як неабходнае, набываючы нацыянальную адметнасць.

Як сведчаць факты моўнай гісторыі, у слове фіксуюцца не ўсе прыкметы дадзенага прадмета, а толькі тыя, якія дазваляюць адрозніць яго ад іншых. Зафіксаваная ж у слове прыкмета-функцыя існуе не сама па сабе, а ў цеснай сувязі з іншымі і, такім чынам, набывае статус характэрнай адзнакі прадмета. Пры дапамозе яе прадмет уяўляецца ў адзінстве яго рыс і прыкмет, абазначаючы цэлы клас аднародных прадметаў, у чым і праяўляецца так званая абагульняльная функцыя слова.

Меркаваць пра ўнутраную форму першакаранёвых слоў, найбольш старажытных па паходжанні, даволі цяжка. Часцей за ўсё ў гэтай групе матывіроўка амаль не ўскрываецца, бо адметная прыкмета забылася, сцёрлася. Падобных слоў у мове шмат, але не большасць. Тэарэтычна, на думку Н.Г.Комлева, дапушчальна існаванне такой мовы, усе значэнні якой будуць выражаны простымі (этымалагічна незразумелымі, нематываванымі) словамі. Аднак жывыя мовы цалкам не пойдуць па гэтаму шляху развіцця, таму што чалавеку цяжка ўтрымаць у памяці гіганцкую колькасць значэнняў мовы, адмаўляючыся ад этымалагічных асацыяцый.

Лексемы, аб якіх ішла размова вышэй, на наш погляд, можна аднесці да катэгорыі слоў з закрытай унутранай формай.

Слова, утворанае ад іншай лексемы, часта перастае суадносіцца з ёй па значэнні, падпадае пад сэнсавае апрошчанне ці дээтымалагізацыю. Былая ўнутраная форма забываецца, узнікаюць новыя спалучэнні лексем з іншымі словамі.

Паводле Лацаруса, забыццё ўнутранай формы мае і станоўчы бок. «У такім выпадку этымон ёсць ускладненне ці згушчэнне думкі. Само з'яўленне унутранай формы, аперцэпцыя ў слове згушчаюць пачуццёвы вобраз, замяньваючы ўсе яго стыхіі адным уяўленнем. У шэрагу ўзнікшых з аднаго кораня ўяўленняў і слоў, з якіх папярэднія губляюць сляды свайго паходжання, — развівае далей сваю думку вучоны, — згушчэннем можа быць названы той працэс, у сілу якога робіцца простым і не патрабуе напружання думкі тое, што раней было мудрагелістым і складаным».

Гаворка пра ўнутраную форму слова, відаць, пачынаецца з пласту невытворных слоў, што ляжаць у аснове другога слова і служаць матывіроўкай для яго назвы. Па сутнасці, унутраная форма — гэта перадача якога-небудзь значэння пры дапамозе значэння іншага.

На думку Н.Г.Комлева, унутраная форма — гэта толькі пачатак для фіксацыі погляду, стрыжань для нанізвання на яго істотнага, галоўнага значэння, якое адрозніваецца ад таго, што нам здаецца. У такім выпадку ўнутраную форму можна было б назваць «значэннем пры першым набліжэнні да слова».

*Гумбольдт В. Избранные труды по языкознанию. М., 1984. С.21.

**Меркаванні**

# Жамчужына з чамадана?

Перачытваю артыкул Л.Раманенкі «Пярліны» з куфэрка» («НС», № 3, 1996) — ды так і не магу ўцяміць, за што аўтар змагаецца. Адно навідавоку: надта ж ужо імпэтна і, я б сказаў, з'едліва, «па-прэзідэнцку» зняважліва абрушваецца на тых, каго не ўпадабаў, не пакідаючы ані драбочку надзеі хоць на нейкі кампраміс ці дыскусію ў газеце. Бо аўтар упэўнены, што яго густ бясспрэчны.

Аднак паспрабуйце замяніць выдзеленыя шрыфтам неўпадабаныя Л.Раманенкам словы нейкімі іншымі, «зразумелымі мільёнам карэнных жыхароў Бацькаўшчыны» і што ж вы атрымаеце? *Спрэс* — няйначай як «сплош», *пярліна* — «жамчужына», *фатэль* — «крэсла», *валізка* — «сумачка», *філіжанка* — «чашка» і г.д.?

Дык прачытайма, ад чаго ж перасцярагаў нас М.Лужанін? Праўда, аўтар, спасылаючыся на пісьменніка, пераставіў усяго толькі націск у адным-адзіным слове (ка́лек — кале́к), цытуючы яго, і тым самым узяў М.Лужаніна ў саюзнікі ў справе абароны той з'явы (калькавання з расійскай); супраць якой пісьменнік выступаў? Ну, ведаеце!

Праўда, Л.Раманенка, пляжачы пад карэнь нялюбыя яму «эксперыментальныя» словы, у той жа час нідзе аніводнага слоўца ўзамен не прывёў, хаця б з таго шырокавядомага слоўніка, які «ахоплівае агульнаўжывальную лексіку беларускай мовы XX ст.», каб чытач мог зразумець, а якая ж лексіка аўтару падабаецца. Як кажуць, не прычэпішся. Застаецца толькі здагадвацца. Падобна на тое, што паважаны Л.Раманенка «аднагалосна» галасуе за кальку!

Я не з'яўляюся мовазнаўцам і лексікалогію «вывучаў», мо, толькі з моўнай практыкі. Дык вось, магу сцвярджаць, што на маёй Асвейшчыне, якая туліцца пры самай расійскай (і латвійскай) мяжы, ніводнае з высмейваемых Л.Раманенкам слоў не з'яўляецца нейкім экзатычным для вуха маіх землякоў, нават «шэраговых», не кажучы ўжо пра пакаленне тых, каго не паспелі адвучыць ад натуральнай беларускай мовы.

*Пярліна?* Так, толькі пярліна. І каралі з пэрлаў прыгажуні носяць, і кветкі — пэрлачкі ў нас растуць, на выгане сціплыя, а пад вокнамі — «поўныя». І ў *фатэль* вас запросяць сесці з дарогі, калі ён стаіць у хаце, а на крэсле мулка, там і малады пасядзіць. А ўжо ж сваёй «падколкай»: «выпі са мной, маё сонейка, *філіжанку* кавы» — аўтар мяне і зусім расчуліў, бо менавіта так звярталася да мяне ў рэдкія святочныя хвіліны пасляваеннага ліхалецця матуля, наліваючы самаробную ячменную каву ў адзіную, невядома як зберажоную філіжаначку з тонкага і звонкага нямецкага фарфору. Сучасныя ж «чашкі» з поліэтылену не звіняць...

І за які радок у артыкуле ні зачапіся вокам — спрэс гэткія ж асацыяцыі.

І толькі дзіву даешся: адкуль столькі злосці на звычайныя беларускія словы ў спадара. Ці яму бабуліны сказы-пераказы не давялося слухаць, ці ён на адных слоўніках «агульнаўжывальнай» лексікі («советское — значит лучшее») вучыўся, што толькі слову «камінар» даў «поўдазвол» на існаванне, пэўна нароўні з «трубачыстам». А ад слова «трунар» яму, бачыце, пераражгнацца хочацца. А ад «грабаўшчыка» што — скакаць? Ці, мо, кансэнсус знойдзем: «дамавіннік»?

Прабачце, што збіўся на здзеклівы тон, але, відаць, «як гукнецца, так і адзавецца». Вунь жа як аўтар распластаў Г.Багданаву за «любыя ёй формы слоў «ейны, -ая, -ае, -ыя»! Між тым, не ведаю, як на Рамельшчыне, а на Віцебшчыне, бадай, не знойдзеш ніводнага чалавека, які ў гаворцы выкарыстоўваў бы формы «-яе, -яго, -іх жыццё, справа і г.д.». Так гавораць толькі «па-пісанаму», г.зн. бліжэй да расійскай. І калі навукоўцы яшчэ не ўвялі ў слоўнікі формы, якія «агульнаўжываюцца» народам спрадвеку, то гэта, як кажуць, іхнія праблемы.

Што ж да «Газэты Свабода» з яе «Гішпаніяй», то частку сваёй свабоды яна ўжо скінула з плячэй. Не вытрымаўшы злосных атак з боку абаронцаў збліжэння моў, газета не толькі паслядоўна «змякчае» сваю тарашкевіцу, але, кіруючыся вынікамі рэферэндуму, стала ў шэрагі іншых двухмоўных газет. Так што не хвалюйцеся: старая добрая Гішпанія вось-вось стане «правільнай» Іспаніяй, а затым застанецца і зусім нічога замяніць «І» на «И». І ўсё стане на месца. І гэта будзе апошні эксперымент. Не трэба будзе пераклёпваць клавіятуру ў пішучых машынках, займацца няўдалымі перакладамі; на чарговым рэферэндуме народ прагаласуе за аднамоўе і пачне карыстацца «зразумелай мільёнам карэнных жыхароў Бацькаўшчыны» мовай «старэйшага брата». А на родную трунароў хопіць.

«Слынныя ж паэты Айчыны» будуць адсылаць у капэртах свае творы ў беларускамоўныя газэты Амэрыкі ў пошуках «удумлівага і зацікаўленага беларускага чытача» ды задаваць сабе горкае пытанне: «Навошта мы пішам і для каго?»

P.S. А мо, усё ж больш цывілізавана ды разумна не перашкаджаць унікальнаму эксперыменту выратавання беларускай мовы, пакуль яна не стала «жамчужынай у чамадане» на музейнай паліцы чалавецтва?

**Антон БУБАЛА.**
вёска Мотужы, Верхнядзвінскі раён.

**Чыталі?**

# «Яўрэйская духоўная культура ў Беларусі»

Толькі прыемнае здзіўленне можа выклікаць той факт, што ў Ізраілі з году ў год большае гістарычна-дакументальнай літаратуры, звязанай з Беларуссю. Пабачыла свет у Тэль-Авіве двухтомная анталогія «Мінск — горад і маці». Выдадзена шматтомная гісторыя Слоніма. Асобныя кнігі прысвечаны Бабруйску, іншым мясцінам Беларусі. Такая шматабсяжная цікаўнасць зразумелая. Напярэдадні Кастрычніцкага перавароту 1917 года яўрэі складалі большасць насельніцтва ў шмат якіх гарадах Беларусі. Што ўжо казаць пра астатнія вядомыя факты: тут нарадзіліся прэзідэнты Ізраіля Голда Меер, Залман Шазар, а таксама славутыя Мендэле Мойхейр-Сфорым, рабін Іцхак Ніснбойм, паэт Давід Шымойні... І пералік можна доўжыць. Калі ў Ізраілі ўсе гэтыя факты былі вядомыя, збіраліся ў агульную скарбонку памяці яўрэйскага народа, то на Беларусі большасць падобнай інфармацыі заставалася ў ценю.

Таму і з'яўляецца пэўным адкрыццём нядаўна выдадзены «Мастацкай літаратурай» гісторыка-літаратурны нарыс Арона Скіра «Яўрэйская духоўная культура ў Беларусі». Роспавед, як падкрэслена ў аўтарскай прадмове да кнігі, заснаваны на канкрэтных прыкладах з жыцця яўрэяў Беларусі ад пачатку XX стагоддзя да нашэсця гітлераўскай арміі ў чэрвені 1941 года.

Дзве знішчальныя навалы перажылі яўрэі за кароткі перыяд — сталінска-бальшавіцкую дыктатуру і нацызм. І суправаджалі ўсё гэта закрыццё сінагог, іх разбурэнне, забарона вывучаць мінулае народа, арышты рабінаў, атэістычная прапагандысцкая хлусня. Ішло татальнае знішчэнне духоўнасці. Уражваюць прыклады, узоры жорсткай барацьбы з духоўнымі здабыткамі яўрэйскага насельніцтва. Так змагаліся не толькі з яўрэямі, а з усім народам Беларусі. І рана, відаць, беларусы адмовіліся ад стварэння мемарыяла дзеля ўшанавання памяці ахвяр сталінскага генацыду. Яўрэі — запэўнівае ў гэтым сам факт з'яўлення кнігі Арона Скіра — больш, шматкратна больш паслядоўныя ў гэтым клопаце.

Характар духоўнасці яўрэяў вызначае іх стаўленне да набыткаў папярэднікаў. Арон Скір акцэнтуе ўвагу на тым, што «бездухоўнасць не дазваляе разглядзець каштоўнасці, адкрытыя ўступленнем чалавецтва ў касмічную эру развіцця». І далей: «Для яе (духоўнасці. — А.К.) небяспечная святасць з яе вернасцю ідэі бескарыслівага і беражлівага стаўлення да культурнай спадчыны, да запаветаў Торы — Канстытуцыі чалавечнасці, якія сцвярджаюць:

1. Святасць Божага духу і свабоды ад рабства.
2. Святасць чалавечай годнасці.
3. Святасць слова.
4. Святасць творчай працы. Святасць дня адпачынку.
5. Святасць ушанавання бацькі і маці.
6. Святасць жыцця душы і цела.
7. Святасць кахання.
8. Святасць прадуктаў фізічнай працы, думкі і прыроды.
9. Святасць сумлення, праўды і гонару.
10. Святасць зычлівасці і чалавечнасці».

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# Новае ў Скарыніяне

У «Нашым слове» (№ 47, 1995) распавядалася пра зборнік артыкулаў Алены Яскевіч «Словам скароны свет». Трэба таксама адзначыць, што пабачыла свет яшчэ адна кніга гэтай аўтаркі: *Яскевіч А.А. Творы Ф.Скарыны: Жанравая структура, філасофскія погляды, мастацтва слова. Мн., 1995.* Нягледзячы на багатую колькасць навуковых прац па гэтай тэме, кніга зацікавіць усіх, каго хвалюе творчасць вялікага беларуса — Ф.Скарыны.

Уважаючы на той факт, што шмат хто з чытачоў можа не зразумець пэўнага тэрміна, аўтарка тлумачыць некаторыя з іх альбо ў тэксце, альбо ў змешчаным у канцы манаграфіі «Слоўніку дадатковай тэрміналогіі». Такім чынам нават маладасведчаны ў гэтых адносінах чытач ведацьме шэраг навуковых тэрмінаў, нязнаных раней. Даследніца пільна прасочвае рэлігійную, культурную сітуацыю, у якой тварыў Скарына. Нарэшце, праца была б няпоўнай, недасказанай без разгляду мастацтва Скарынавага слова. Моўная палітыка, рытарычная культура, характар вобразнасці — усё гэта ёсць у манаграфіі. Цікава падаецца, якімі стылістычнымі сродкамі дасягаў прыгажосці слова волат беларускага Адраджэння. «У Скарыны, — піша даследніца, — мы сустракаем такі рэдкі прыём, як «хіязм, дзе інверсіраванае экспрэсіўнае размяшчэнне членаў вытрымліваецца ў аднолькавай сінтаксічнай будове сказаў».

Такім чынам, перад намі паўстае Скарына — аўтар экзэгезаў. Скарына — філосаф, Скарына — стыліст.

Да ўсяго сказана трэба дадаць, што нядаўна Алена Яскевіч атрымала Рэспубліканскую прэмію ў галіне навукі Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь. Віншуем!

**Кніжнік.**

**У часопісах**

# «Роднае слова»

На студзень прыпадае сёлета нямала юбілеяў, і ў першым нумары часопіса «Роднае слова» ім аддаецца належная ўвага. Чытачы знойдуць тут артыкулы пра творчасць Івана Шамякіна, Анатоля Кудраўца. Адзначаючы ўгодкі часопіса «Нёман», змешчана гутарка з Алегам Куліцкім — рэдактарам «Настаўніцкай газеты», якой ужо паўвека. «Мастак і мова» — «бенефісны» артыкул (так мы называем артыкулы, падрыхтаваныя самімі юбілярамі) Міколы Купавы, «З радаводу Аркадзя Куляшова» — «бенефіс» Валянціны Куляшовай. Цікавыя артыкулы напісалі Павел Міхайлаў (пра дыялектную аснову літаратурнай мовы), Іван Лепешаў (ён спецыяліст у фразеалогіі), Павал Сцяцко (пра словы-чужынцы і іх натуральныя эквіваленты).

У раздзеле «Методыка і вопыт» друкуецца распрацоўка ўрока па кнізе Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня», даюцца метадычныя парады па вывучэнні міфалогіі. Змешчаны артыкулы пра Джэка Лондана, пра сярэднявечны эпас, дыдактычны матэрыял курса «Літаратура народаў свету».

Сонца — на вясну... Часопіс друкуе прыкладны сцэнар «Гуканне вясны», падаюцца тэксты і ноты святочных песняў. «Няспыннае кола жыцця» — працяг артыкула Антаніны Хатэнкі пра духоўны сэнс народных абрадаў. Чарговая публікацыя Віктара Скарабагатава прысвечана класіцызму ў музыцы.

У раздзеле «На ростанях» — прэм'еры рубрык «Самае галоўнае» (развагі Івана Шамякіна) і «Класікі зблізку» (друкуюцца выбраныя мясціны з успамінаў пра Якуба Коласа), чарговы артыкул пра Коласавы мясціны на Стаўпеччыне. Даецца абвестка пра філалагічны конкурс «Беларуская ластаўка», які часопіс праводзіць сумесна з беларуска-германскай фірмай «Дзітрых». Заданні конкурсу — у наступных нумарах часопіса.

**Іван ЖДАНОВІЧ**

# Памяці Алеся Звонака



**Памёр Алесь Звонак** — вядомы беларускі паэт, перакладчык, тэатразнавец, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. Для нашай літаратуры гэта яшчэ адна страта.

Пра сябе Алесь Звонак (Пётр Барысавіч Звонак) як паэт заявіў яшчэ ў 20-я гады, калі выйшлі зборнікі «Пунсовае ранне» (з Я.Бобрыкам і Я.Тумаловічам, 1926) і «Буры ў граніцэ» (1929). Ён увайшоў у айчыннае пісьменства таленавітым творцам. Хваля рэпрэсіяў 30-х гадоў не абмінула Алеся Звонака. У лістападзе 1936 года арышт. Менская турма. Магілёўская перасылка. Далёкая Калыма. Такі цярністы шлях прайшоў паэт-пакутнік. Здабываючы золата для краіны, ён страціў скарбы свае паэзіі: шмат тагачасных вершаў паэта «загінулі дзесьці ў глыбінях вечнай мерзлаты».

Трэцім перыядам ягонай творчасці сталі паслягулаўскія гады, ад рэабілітацыі ў 1955 г. Поўны паэтычнага натхнення, ён тварыў і тварыў. Вялікай падзеяй стаў супольны з М.Хведаровічам пераклад «Віцязя ў тыгровай шкуры» Ш.Руставелі. Алесь Звонак перакладаў для беларусаў вершы дагестанскіх, калмыцкіх, латвійскіх, летувіскіх, расійскіх, украінскіх, эстонскіх і іншых паэтаў. Выходзяць яго арыгінальныя кнігі паэзіі "Табе адной», «Запаветнае», «Россып» «Прадчуванне», «Санеты», «Ружовая чайка», «Светлацені» (за яе паэт і атрымаў Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь). Апошні зборнік — «Мой сад».

Хочацца верыць, што прыйдзе час, калі для нашай краіны настануць светлыя дні і Беларусь, адраджаючыся на руінах нацыянальнага жыцця, ушануе належным чынам памяць сваіх слынных паэтаў, спаміж якіх жыцьме імя Алеся Звонака — паэта, філосафа, грамадзяніна.



**Ніл ГІЛЕВІЧ**

* * *

Бярозы ў яркай стыні.
Мароз і цішыня.
Як гэты срэбны іней —
Я чую, — дні звіняць.
І сыпяцца патроху
З маіх галін-гадоў
На белую дарогу,
На ўсланы снегам дол.
Ах, сонечныя гурбы!
Калі вас намяло?
Пасівералі губы,
Пасеклася чало.
А ўсё яшчэ здаецца,
Я там, далёка там...
На пыльнай вулцы ўвечар
Стаіць вясёлы гам.
...............................

# Яшчэ раз пра славу і няслаўе...

Прыемна, што беларуская гісторыя набывае ўсё новых і новых прыхільнікаў і даследнікаў. Столькі гістарычных падзей і постацяў вартыя нашай увагі, нашых роздумаў, нашых твораў... Вось і да нас у рэдакцыю прыслалі першыя водгукі на публікацыі, звязаныя з праблемай сучаснага асвятлення гістарычных падзей. Канкрэтна распачалося гэта публікацыяй ліста нашай чытачкі Г.Самко, якая выказала сваё меркаванне пра нарыс І.Масляніцынай, прысвечаны асобе князя Фёдара Бельскага. На жаль, шаноўная І.Масляніцына звярнула ўвагу не столькі на гістарычна-маральныя аспекты, якія мы і хацелі зрабіць прадметам дыскусіі, а на ацэнку ўласнай творчасці. Мы, мабыць, зрабілі памылку, надрукаваўшы ліст сваёй чытачкі цалкам, не выкрасліўшы фразу, якая, хаця і не адносілася проста да І.Масляніцынай, пакрыўдзіла яе. Шчыра просім прабачэння ў сп. Масляніцынай, тым болей, што ні ў якім разе не жадаем перашкодзіць тым, хто працуе ў рэчышчы папулярызацыі беларускай гісторыі.

А цяпер паспрабуем працягнуць гаворку непасрэдна пра гістарычныя падзеі ды іх маральныя аспекты з пункту гледжання як іх сучаснікаў, так і нас... Тым болей, што з'явілася добрая падстава — прыхільнік творчасці І.Масляніцынай Д.Руткоўскі са Слоніма даслаў ліст у яе абарону (шкада, не напісаў зваротнага адраса, матывуючы: «Навошта ён Вам, у госці ж не прыедзеце»). У лісце шмат цікавых фраз і высноваў. Вось, напрыклад: *«Толькі адзін раз аўтар* (І.Масляніцына. — Рэд.) *называе Ф.Бельскага «мужным і адважным». А хіба гэта не так? Узняць руку на польскага караля, Вялікага князя Літоўскага можа толькі мужны і адважны чалавек»*... І далей: *«Мне здаецца, я разумею, чаму і раз'юшаная сп. Г.Самко, і нават хтосьці з рэдакцыі газеты «Наша слова» абрынуліся на няшчаснага Ф.Бельскага і разам з ім і аўтара нарыса. Не на таго Ф.Бельскі «са таварышчы» зрабіў замах. Вось калі б на князя Маскоўскага Івана III, тады б ён быў сапраўдным нацыянальным беларускім героем, пакутнікам за радзіму сваю, як, напрыклад, узнесены сёння на вышыню князь К.Астрожскі, які «набіў морду» гэтым маскалям пад Оршай, хаця потым і ганебна прайграў усю ваенную кампанію. А калі б яшчэ і аўтар абліла граззю «гэтага здрадніка Ф.Бельскага» — тады б усё было добра, патрыятычна, у духу русафоба З.Пазьняка і яго кампаніі».*

Ну, па-першае, мы не збіраемся быць суддзямі над тымі, хто ўжо не можа абараніцца, а па-другое, хіба наша мэта — бачыць канкрэтнага Ф.Бельскага аблітага граззю, таму што ён «не на таго цара зрабіў замах»? Агульначалавечая маральнасць не бывае ні «русафобскай», ні «беларусафобскай». Давайце паразважаем, кім бы мы назвалі Ф.Бельскага, калі б ён зрабіў замах пры падобных абставінах не на Казіміра Ягайлавіча, а на Івана III? Далібог, не героем. Хутчэй усё-ткі мярзотнікам. Каб зразумець гэта, трэба на нейкі час пераўвасобіцца ў тамтэйшага чалавека. Хто для жыхара XVI стагоддзя быў цар, прычым законны, «парфірароджаны»? Памазанік божы. Гэта не канцлер і не прэзідэнт, гэта — сан, па выразу аднаго з французскіх пісьменнікаў XIX ст., — «прынцып, апрануты ў аксаміт з лілеямі». Падняць руку на «памазаніка божага» — гэта быў не проста грэх, але — кашчунства. А ў час, калі кароль быў гарантам існавання самой дзяржавы — спроба ўвесці гэтую зяржаву ў хаос, вайну за трон, паставіць на мяжу знішчэння... Так, кароль — «прафесія небяспечная», гісторыя ведае шмат прыкладаў, калі законныя каралі гінулі ў выніку закалоту. Іх труцілі, гвалтам заключалі ў кляштар, адсякалі галаву, здаралася — і заколвалі нажом. Але — хто быў выканаўцам гэтых злачынстваў? Хто ўрэшце падымаў нож на караля? Фанатыкі, людзі без імя, якімі кіравалі вышэйшыя асобы, не жадаўшыя «пэцкацца». І не гэтых, апошніх, пасля вялі на эшафот, плявалі ў твар, навечна кляймілі... А чаму? Ды таму, што «прыбіралі» каралёў не дзеля таго, каб «прыбраць», а каб у выніку атрымаць уладу, багацце, іншыя матэрыяльныя даброты, якімі, зразумела, можна карыстацца, толькі застаючыся непакараным. (Згадаем, як зацята ўцякаў Бельскі, не пажадаўшы падзяліць лёс ні таварышаў, ні юнай жонкі...) Гэта пасля з'явяцца «змагары за ідэю», падобна нашаму земляку Грынявіцкаму. А што ж рухала шляхціцам Бельскім, якога звязала з ягоным сюзерэнам, як кожнага шляхціца, своеасаблівая «ваенная прысяга»? Рэлігійны фанатызм? Казімір не патрабаваў ад яго перайсці ў каталіцтва, калі ўжо прысутнічаў на праваслаўным вянчанні... Мусіць, толькі адно жаданне ўлады і багацця. Гэта вам не Вільгельм Тэль... Уявім на хвілю, што закалот удаўся, Казімір мёртвы, землі Вялікага Княства Літоўскага далучаны да Масковіі, Фёдар і паплечнікі атрымалі ўзнагароды ад новага сюзерэна... У выніку — вайна, жорсткая і бязлітасная, дынастычныя «разборкі», рэлігійныя сутыкненні... Мы ж можам канстатаваць адно: забойца цара (усё роўна, Казіміра, Генрыха, Івана), які тым больш здзейсніў злачынства навідавоку (мы б цяпер сказалі — цынічна), не мог шанаваўца сярод людзей XVI ст., бо пераступіў межы рэлігійныя, грамадзянскія і маральныя... І гэта выснова не з пункту гледжання манархіста, а з пункту гледжання менавіта агульначалавечай маралі.... Тут не мужнасць і адвага патрэбныя, каб закалоць нічога не падазраючага чалавека, а... Але не будзем «паліваць граззёй», бо дэкларавалі ж гэтага не рабіць.

Здаецца нам, ёсць яшчэ адзін нюанс у гэтай гісторыі і ў чытацка-аўтарскіх крыўдах. І гэта — пытанне жанру, у якім працуе І.Масляніцына. Ці яна гісторык, і яе творы — навукова-папулярныя нарысы, ці яна — белетрыст, і яе творы — мастацкая апрацоўка гістарычных фактаў? У апошнім выпадку пісьменнік мае права на ўсё, на любыя трактоўкі, любыя домыслы, абы гэта ўражвала і хвалявала чытача і аказвала пэўнае ўздзеянне на яго пачуцці... Калі ж гэта навуковапапулярныя творы, там не можа быць ніякіх суб'ектыўных ацэнак, ніякай эмацыянальнай афарбоўкі (накшталт «смелы і адважны», «кахаў», «сумаваў»). Падобныя выказванні могуць прагучаць там толькі з вуснаў тагачасных сведкаў.

Аўтар допісу ў рэдакцыю Д.Руткоўскі так выказваецца пра І.Масляніцыну: *«Навошта ж яе па крылам, што б высока не лётала? Крыўдна і сорамна, спадары нашасловаўцы!»*

Запэўніваем сп.Руткоўскага, што не збіраемся біць шаноўную І.Масляніцыну па крылах. Барані Божа! Няхай лётае над палеткамі беларускай гісторыі ды, зноў жа па выразу Д.Руткоўскага, «сее разумнае, добрае, вечнае». Заклікаем аўтараў будучых допісаў ўдзельнічаць да аднаго: перайсці з асобы сучаснага гісторыка (пісьменніка?) да самой гісторыі. Гэта ж больш цікава, ці не праўда? Тым больш і яшчэ нагода ёсць — закранутая асоба К.Астрожскага...

**Людміла ШНІП.**

## І смех і грэх

### Пародыі

**Георгій ЮРЧАНКА**

## У снежным палоне

*Сумны снегавей прашалясцеў..*
\- - -
*І снег збіраецца упрочкі.*
\- - -
*Зноў пасвятлела ў хаце*
*Ад снегу — крышталю...*
\- - -
*І мне законніца-зіма*
*Шкадуе жменьку снегападу.*
\- - -
*За кіламетр да першага снегу...*
\- - -
*Снег пачарнеў і — аддаліўся,*
*Бунтуе павадак душы...*
\- - -
*І снег ідзе, і дождж імжыць.*
\- - -
*Ні жменькі снегу маладога.*
\- - -
*Пад снягі сышлі, бы ўпрочкі,*
*сцежкі...*
\- - -
*І дождж, і снег сыходзяцца на*
*ўзмежку.*
\- - -
*Снягоў бялюткіх ціхае вітанне.*
\- - -
*Снегавеі памятуць.*
\- - -
*Снег рыпіць пад нагамі.*
**Алесь Жыгуноў.**

У зябкім тлуме кругабегу
Пакутна згадкі варушыць.
Сяджу. Твару. Але без снегу
Бунтуе змесціва душы.

Люблю, як снег прысыпле сцежкі,
Акрые беллю пекнаты
Пагуркі, рыцвіны, узмежкі,
Паляны, рэчку і платы.

Мне толькі снег і — не іначай!
Ён шчасна сніцца па начах.
Калі ж я снег наўяў пабачу,
Яснота бліскае ў вачах.

Пры ім заўжды ад думак ройна,
Нібы адметны куш сарвеш.
Вясёлкавы, сугрэўны, мройны
Перасыпаю з верша ў верш.

### Пачутае «У Лявона»

**Няшчасныя**

Маладзенькая госця шынка, пра блізкі шлюб каторай ведаюць ужо ўсе бывальцы, сядзіць задумёная.

— Чаму сумуеш? — пытаецца ў яе сяброўка.

— Я думаю пра ўсіх тых, хто пачуецца няшчасным у дзень майго шлюбу.

— А ты што, збіраешся некалькі разоў выходзіць замуж?

**Пацешыў**

Двое студэнтаў у гутарцы паміж сабою жаляцца адзін другому, што не хапае грошай. Але іх пацешыў багата апрануты мужчына, што міжволі чуў іх скаргі:

— Не гаруйце! Я, калі пачынаў хадзіць у гэты шынок, таксама не меў ні рубля. Але цяпер маю некалькі дзесяткаў тысяч долараў.

**Не стрымаў слова**

Адзін госць шынка ўбачыў вядомага адваката і звярнуўся да яго з просьбай.

— Скажыце, шаноўны, ці можа быць падставай для разводу абяцанне, якое не выканаў.

— Гэта датычыць інтымнага жыцця сужонцаў? — перапытаў адвакат.

— Не, але жонка пагражае разводам, бо я не стрымаў слова, дадзенае перад шлюбам. Я абяцаў насіць яе на руках, але цяпер не магу нават падняць...

**Пазнаў з выгляду**

Госць, што нават на шыкоўным паркеце шынка хадзіў шырока ставячы ногі, быццам быў усё яшчэ на караблі, спрабуе пазнаёміцца з дзяўчынай:

— Вы, відаць, ніколі не плавалі на моры?

— Ніколі! Аднойчы толькі на лодцы на Нарачы.

— Я так і думаў — пазнаў з Вашага выгляду.

**Час**

Студэнты, сустрэўшы ў шынку свайго прафесара, запыталіся ў яго, спрабуючы падкалоць:

— Скажыце, спадар прафесар, што найлепей вучыць чалавека? Ці не шынок?

— Не, толькі час!

**Не толькі дзеля машыны**

Маладыя бывальцы шынка вырашылі пажаніцца. Маладзён дый пытае сваю абранніцу:

— Спадзяюся, ты выходзіш за мяне замуж не толькі таму, што я маю машыну?

— Вядома ж, не. Я цудоўна ведаю, што ў тваіх бацькоў трохпакаёвая кватэра ды лецішча ў Воўчкавічах.

**На хвілінку**

У шынок заходзіць наведвальнік. Афіцыянт, якому ён замаўляе абед, удакладняе:

— На дранікі трэба пачакаць, не доўга, не болей, чым паўгадзіны. Ці маеце час?

— Магу пачакаць і больш — жонка зайшла на хвілінку ў абутковую краму.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Вольга Кузьміч, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Уладзімір Панада, Зміцер Санько, Здзіслаў Сіцька — адказны сакратар, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 199

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 3300 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 19.02.1996 г. у 15 гадзін.